Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

N 10






ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"
МЕНСК — 1937

ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАРТЫЙНЫ
ШТОМЕСЯЧНІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ XI

№ 10. Кастрычнік 1937 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.,
ЦК КП(б)Б, пакой 8.
Тэлефон рэдакцыі па камутатару
20.000, даб. 50.



# ЛОЗУНГІ ЦК ВКП(б)

## да XX гадавіны Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі

**1. Няхай жыве XX гадавіна Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі ў СССР!**

2. За дваццаць год упартай барацьбы рабочыя і сяляне СССР пабудавалі соцыялістычнае грамадства працоўных горада і вёскі. Умацуем сілу і магутнасць першай у свеце соцыялістычнай дзяржавы!

3. Фашысцкі тэрор, жабрацтва, беспрацоўе—вось лёс працоўных у краінах капіталізма!

Знішчэнне эксплаатацыі, свабоднае, заможнае жыццё для працоўных—вось вынік нашай Кастрычніцкай рэволюцыі!

4. Старая Расія была ўбогая і бяссільная. Совецкі Саюз за дваццаць год стаў магутнай і багатай краінай соцыялізма. Няхай жыве наша Кастрычніцкая рэволюцыя, якая прынесла шчасце працоўным СССР!

5. За дваццаць год совецкай улады ўмацаваўся і стаў непарушным саюз рабочых і сялян. Няхай жыве саюз рабочых і сялян—аснова совецкай улады!

6. Царская Расія была турмой народаў. У совецкай краіне расце і мацнее вялікі саюз роўнапраўных народаў. Няхай жыве брацкі саюз і вялікая дружба народаў СССР!

7. Дыктатура рабочага класа забяспечыла пабудову соцыялізма ў СССР. Умацуем дыктатуру рабочага класа СССР—дзяржаўнае кіраўніцтва рабочага класа ўсім нашым грамадствам!

8. За дваццаць год соцыялістычнай рэволюцыі наша радзіма ператварылася ў магутную індустрыяльную дзяржаву. Наперад, да новых перамог комунізма!

9. Сталінская Канстытуцыя СССР—вынік барацьбы і перамог Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай рэволюцыі. Няхай жыве Канстытуцыя перамогшага соцыялізма і сапраўднага дэмакратызма!

10. «Наша рэволюцыя з'яўляецца адзінай, якая не толькі разбіла аковы капіталізма і дала народу свабоду, але паспела яшчэ даць

народу матэрыяльныя ўмовы для заможнага жыцця. У гэтым сіла і неперамажнасць нашай рэволюцыі» (Сталін).

11. Пролетарыі ўсіх краін! Прыгнечаныя народы калоній! Вышэй сцяг Леніна—Сталіна, сцяг пераможнай соцыялістычнай рэволюцыі! Няхай жыве пролетарская рэволюцыя ва ўсім свеце!

12. Братам па класу, вязням капітала, афярам крывавага фашысцкага тэрора, барацьбітам за перамогу рабочага класа—наша пролетарскае прывітанне!

13. Барацьба іспанскага народа супроць унутранага і замежнага фашызма—агульная справа ўсяго перадавога і прагрэсіўнага чалавецтва. Прывітанне гераічнаму іспанскаму народу, які змагаецца за сваю незалежнасць і свабоду!

14. Брацкае прывітанне вялікаму кітайскаму народу, які змагаецца за сваю незалежнасць супроць японскіх захватчыкаў!

15. Фашысты рыхтуюць напад на Савецкі Саюз. Далоў фашысцкіх падпальшчыкаў вайны! На абарону СССР—бацькаўшчыны працоўных і прыгнечаных усіх краін!

16. «Мы стаім за мір і адстойваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны» (Сталін).

17. Няхай жыве наша родная, непераможная Чырвоная Армія, магутны аплот мірнай працы народаў СССР, верны вартавы заваёў Вялікай Кастрычніцкай Соцыялістычнай Рэволюцыі!

18. Няхай жывуць савецкія лётчыкі, гордыя сокалы нашай радзімы, якія дабіліся сусветных авіяцыйных рэкордаў!

19. Прывітанне байцам пагранічнікам, зоркім часавым краіны соцыялізма!

20. Шматмільённай арміі ўдарнікаў і ўдарніц прамысловасці і транспарту, стаханаўцам і стаханаўкам, знатным людзям нашай краіны—большэвіцкае прывітанне!

21. Рабочыя і работніцы, інжынеры і тэхнікі цяжкай індустрыі і машынабудаўніцтва! За высокую здабычу вугалю, нафты, металу, за своечасовы выпуск лепшых машын, якія з'яўляюцца асновай развіцця народнай гаспадаркі краіны!

22. Рабочыя і работніцы, камандзіры і інжынеры лёгкай прамысловасці! Больш паркалю, шоўку, сукна, трыкатажу, абутку грамадзянам савецкай краіны! Змагайцеся за паляпшэнне якасці прадукцыі!

23. Прывітанне стаханаўцам соцыялістычных палёў, якія па-большэвіцку змагаюцца за высокія ўраджаі! Няхай жыве заможнае і культурнае жыццё калгасаў і калгаснікаў!

24. Ператворым СССР у краіну самай перадавой у свеце прамысловасці і тэхнікі, самай прадукцыйнай сельскай гаспадаркі! Даб'емся багацця прадуктаў!

25. За далейшы росквіт культуры народаў СССР, за новыя поспехі і заваёвы савецкай навукі і тэхнікі!

26. Няхай жыве роўнапраўная жанчына СССР, актыўная ўдзельніца ў кіраванні дзяржавай, гаспадарчымі і культурнымі справамі краіны!

27. Піонеры і піонеркі! Вучні савецкай школы! Авалодвайце ведамі, вучыцеся стаць барацьбітамі за справу Леніна!

28. Няхай жыве комсамол—магутны рэзерв і надзейны памочнік большэвіцкай партыі! Няхай жыве працоўная моладзь нашай радзімы!

29. «Сувязь з масамі, умацаванне гэтай сувязі, гатоўнасць прыслухоўвацца да голасу мас, вось у чым сіла і непераможнасць большэвіцкага кіраўніцтва» (Сталін).

30. Узмоцнім рэволюцыйную пільнасць! Пакончым з палітычнай бесклапотнасцю ў нашым асяроддзі!

31. Выкаранім ворагаў народа—трацкісцка-бухарынскіх шпіёнаў і шкоднікаў, наймітаў замежных фашысцкіх разведак! Смерць здраднікам радзімы!

32. Выкрыем да канца ўсіх і ўсякіх двурушнікаў! Ператворым нашу партыю ў непрыступную крэпасць большэвізма!

33. Рабочыя і сяляне! Разгортвайце выбарчую кампанію! Вылучайце сумесна ў Вярхоўны Совет СССР лепшых людзей, адданых да канца справе Леніна—Сталіна!

34. Працоўныя СССР! Выбірайце ў Вярхоўны Совет доблесных патрыётаў нашай радзімы, непахісных барацьбітоў за шчасце рабочых і сялян, за социялізм!

35. Комуністы! Мацней сувязь з беспартыйнымі масамі! Галоўнае ў выбарчай кампаніі—не адмяжоўвацца ад беспартыйных, а дзейнічаць разам з беспартыйнымі і сумесна з імі вылучаць кандыдатаў у Вярхоўны Совет СССР!

36. Няхай жыве Ўсесаюзная комуністычная партыя большэвікоў—перадавы атрад працоўных СССР!

37. Няхай жыве Комуністычны Інтэрнацыянал—кіраўнік і арганізатар барацьбы супроць вайны, фашызма і капіталізма! Няхай жыве сусветны комунізм!

38. Няхай жыве вялікі, непераможны сцяг Маркса—Энгельса—Леніна! Няхай жыве ленінізм!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ УСЕСАЮЗНАЙ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (большэвікоў).

---

В. І. Ленін

# Пісьмо членам ЦК

Таварышы!

Я пішу гэтыя радкі ўвечары 24-га, становішча да нельга крытычнае. Ясней яснага, што цяпер, ужо папраўдзе запаволенне ў паўстанні смерці падобна.

З усіх сіл запэўніваю таварышоў, што цяпер усё вісіць на валаску, што на чарзе стаяць пытанні, якія не нарадамі вырашаюцца, не з'ездамі (хоць-бы нават з'ездамі Советаў), а выключна народамі, масай, барацьбою ўзброеных мас.

Буржуазны націск карнілаўцаў, удаленне Верхоўскага паказвае, што чакаць нельга. Трэба, ва што-б там ні стала, сёння ўвечары, сёння ноччу арыштаваць урад, абяззброіўшы (перамогшы, калі будуць супраціўляцца) юнкераў і т. д.

Нельга чакаць!! Можна страціць усё!!

Цана ўзяцця ўлады зараз-жа: абарона **народу** (не з'езда, а народу, арміі і сялян у першую галаву) ад Карнілаўскага ўрада, які прагнаў Верхоўскага і склаў другую Карнілаўскую змову.

Хто павінен узяць уладу?

Гэта зараз не важна: няхай яе возьме Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт «або іншая ўстанова», якая заявіць, што здасць уладу толькі праўдзівым прадстаўнікам інтарэсаў народу, інтарэсаў арміі (прапанова міру зараз-жа), інтарэсаў сялян (зямлю ўзяць патрэбна зараз-жа, адмяніць прыватную ўласнасць), інтарэсаў галодных.

Трэба, каб усе раёны, усе палкі, усе сілы мабілізаваліся зараз-жа і паслалі безадкладна дэлегацыі ў Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт, у ЦК большэвікоў, настойліва патрабуючы: ні ў якім разе не пакідаць улады ў руках Керэнскага і кампаніі да 25-га, ніякім чынам; рашаць справу сёння абавязкова вечарам ці ноччу.

Гісторыя не прабачыць прамаруджання рэволюцыянерам, якія маглі перамагчы сёння (і напэўна перамогуць сёння), рызыкуючы траціць шмат заўтра, рызыкуючы страціць усё.

Узяўшы ўладу сёння, мы бярэм яе не супроць Советаў, а для іх.

Узяцце ўлады ёсць справа паўстання; яго палітычная мэта высніцца пасля ўзяцця.

Было-б пагібеллю або фармальнасцю чакаць вагаючагася галасавання 25 кастрычніка, народ управе і абавязан рашаць падобныя пытанні не галасаваннямі, а сілай; народ управе і абавязан у крытычныя моманты рэволюцыі накіроўваць сваіх прадстаўнікоў, нават сваіх лепшых прадстаўнікоў, а не чакаць іх.

Гэта даказала гісторыя ўсіх рэволюцый, і бязмерным было-б злачынства рэволюцыянераў, калі-б яны ўпусцілі момант, ведаючы, што ад іх залежыць **выратаванне рэволюцыі,** прапанова міру, выратаванне Піцера, выратаванне ад голаду, перадача зямлі сялянам.

Урад вагаецца. Трэба **дабіць** яго, ва што-б там ні стала!

Прамаруджанне ў выступленні смерці падобна.

---

**І. Сталін**

# Міжнародны характар Кастрычніцкай рэвалюцыі

**К дзесяцігоддзю Кастрычніка**

Кастрычніцкая рэвалюцыя не ёсць толькі рэвалюцыя «ў нацыянальных рамках». Яна ёсць, перш за ўсё, рэвалюцыя інтэрнацыянальнага, сусветнага парадку, бо яна азначае карэнны паварот у сусветнай гісторыі чалавецтва ад старога, капіталістычнага, свету к новаму, соцыялістычнаму, свету.

Рэвалюцыі ў мінулым аканчваліся звычайна зменай у карміла праўлення адной групы эксплаататараў другой групай эксплаататараў. Эксплаататары мяняліся, эксплаатацыя заставалася. Так была справа ў час вызваленчых рухаў рабоў. Так была справа ў перыяд паўстанняў прыгонных. Так была справа ў перыяд вядомых «вялікіх» рэвалюцый у Англіі, ва Францыі, у Германіі. Я не гавару аб Парыжскай Комуне, якая была першай, слаўнай, геаічнай, але ўсе-ж беспаспяховаю спробай пролетарыята павярнуць гісторыю супроць капіталізма.

Кастрычніцкая рэвалюцыя адрозніваецца ад гэтых рэвалюцый **прынцыпова.** Яна ставіць сваёй мэтай не замену адной формы эксплаатацыі другою формай эксплаатацыі, адной групы эксплаататараў другою групай эксплаататараў, а зніштажэнне ўсякай эксплаатацыі чалавека чалавекам, зніштажэнне ўсіх і ўсякіх эксплаататарскіх груп, устанаўленне дыктатуры пролетарыята, устанаўленне ўлады самага рэволюцыйнага класа з усіх існаваўшых да гэтага часу прыгнечаных класаў, арганізацыю новага бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Іменна таму **перамога** Кастрычніцкай рэвалюцыі азначае карэнны пералом у гісторыі чалавецтва, карэнны пералом у гістарычных лёсах сусветнага капіталізма, карэнны пералом у вызваленчым руху сусветнага пролетарыята, карэнны пералом у спосабах барацьбы і формах арганізацыі, у быту і традыцыях, у культуры і ідэалогіі эксплаатуемых мас усяго свету.

У гэтым аснова таго, што Кастрычніцкая рэвалюцыя ёсць рэволюцыя інтэрнацыянальнага, сусветнага парадку.

У гэтым-жа корань той глыбокай сімпатыі, якую адчуваюць да Кастрычніцкай рэвалюцыі прыгнечаныя класы ўсіх краін, бачачы ў ёй залог свайго вызвалення.

Можна было-б адзначыць рад асноўных пытанняў, п.. лініі якіх праходзіць уздзейнічанне Кастрычніцкай рэвалюцыі на развіццё рэвалюцыйнага руху ва ўсім свеце.

1. Кастрычніцкая рэвалюцыя выдатна, перш за ўсё, тым, што яна прарвала фронт сусветнага імперыялізма, нізлажыла імперыялістычную буржуазію ў адной з самых вялікіх капіталістычных краін і паставіла ва ўлады соцыялістычны пролетарыят.

Клас наёмных, клас ганімых, клас прыгнечаных і эксплаатуемых **упершыню** ў гісторыі чалавецтва падняўся да палажэння класа **пануючага,** заражаючы сваім прыкладам пролетарыяў усіх краін.

Гэта значыць, што Кастрычніцкая рэвалюцыя **адкрыла** новую эпоху, эпоху **пролетарскіх** рэволюцый у краінах **імперыялізма.**

Яна адабрала прылады і сродкі вытворчасці ў памешчыкаў і капіталістаў іператварыла іх у грамадскую ўласнасць, проціпаставіўшы, такім чынам, буржуазнай уласнасці ўласнасць соцыялістычную. Тым самым яна выкрыла хлусню капіталістаў аб тым, што буржуазная ўласнасць з'яўляецца недатыкальнай, свяшчэннай, вечнай.

Яна вырвала ўладу ў буржуазіі, пазбавіла буржуазію палітычных праў, разбурыла буржуазны дзяржаўны апарат і перадала ўладу советам, проціпаставіўшы, такім чынам, буржуазнаму парламентарызму, як дэмакратыі **капіталістычнай,** соцыялістычную ўладу советаў, як дэмакратыю **пролетарскую.** Лафарг быў праў, калі ён гаварыў яшчэ ў 1887 годзе, што на другі дзень пасля рэволюцыі «ўсе былыя капіталісты будуць пазбаўлены выбарчых праў». Тым самым Кастрычніцкая рэволюцыя выкрыла хлусню соцыял-дэмакратаў аб тым, што магчымы цяпер мірны пераход к соцыялізму, праз буржуазны парламентарызм.

Але Кастрычніцкая рэволюцыя не спынілася і не магла спыніцца на гэтым. Разбурыўшы старое, буржуазнае, яна прынялася будаваць новае, соцыялістычнае. Дзесяць год Кастрычніцкай рэволюцыі ёсць дзесяць год будаўніцтва партыі, профсаюзаў, советаў, кааперацыі, культурных арганізацый, транспарту, прамысловасці, Чырвонай арміі. Бясспрэчныя поспехі соцыялізма ў СССР на фронце будаўніцтва наглядна паказалі, што пролетарыят **можа** з поспехам кіраваць краінай **без** буржуазіі і **супроць** буржуазіі, што ён **можа** з поспехам будаваць прамысловасць **без** буржуазіі і **супроць** буржуазіі, што ён **можа** з поспехам кіраваць усёй народнай гаспадаркай **без** буржуазіі і **супроць** буржуазіі, што ён **можа** з поспехам будаваць соцыялізм, не гледзячы на капіталістычнае акружэнне. Старая «тэорыя» аб тым, што эксплаатуемыя не могуць абыйсціся без эксплаатуючых, так сама, як галава і іншыя часткі цела не могуць абыйсціся без страўніка,—не ёсць дасташнне аднаго толькі вядомага рымскага сенатара старажытнай гісторыі, Мененія Агрыппы. Гэта «тэорыя» з'яўляецца цяпер краевугольным каменем палітычнай «філасофіі» соцыял-дэмакратыі наогул, соцыялдэмакратычнай палітыкі **кааліцыі** з імперыялістычнай буржуазіяй—у асабліваспі. Гэта «тэорыя», набыўшая характар забабонаў, прадстаўляе

цяпер адну з самых сур'ёзных перашкод на шляху к рэвалюцыянізаванню пролетарыята капіталістычных краін. Адным з важнейшых рэзультатаў Кастрычніцкай рэвалюцыі з'яўляецца той факт, што яна нанесла гэтай хлуслівай «тэорыі» смяротны ўдар.

Ці трэба яшчэ даказваць, што гэтыя і падобныя ім рэзультаты Кастрычніцкай рэвалюцыі не маглі і не могуць застацца без сур'ёзнага ўплыву на рэвалюцыйны рух рабочага класа ў капіталістычных краінах?

Такія агульнавядомыя факты, як пастуальны рост комунізма ў капіталістычных краінах, нарастанне сімпатый пролетарыяў усіх краін да рабочага класа СССР, нарэшце, наплыў рабочых дэлегацый у Краіну Советаў, з бясспрэчнасцю гавораць аб тым, што насенне, кінутае Кастрычніцкай рэвалюцыяй, ужо пачынае прыносіць плады.

2. Кастрычніцкая рэвалюцыя расхістала імперыялізм не толькі ў цэнтрах яго панавання, не толькі ў «метраполіях». Яна ўдарыла яшчэ па тылах імперыялізма, па яго перыферыі, падарваўшы панаванне імперыялізма ў каланіяльных і залежных краінах.

Звергнуўшы памешчыкаў і капіталістаў, Кастрычніцкая рэвалюцыя разбіла ланцугі нацыянальна-каланіяльнага гнёту і вызваліла ад яго ўсе без выключэння прыгнечаныя народы абшырнай дзяржавы. Пролетарыят не можа вызваліць сябе, не вызваляючы прыгнечаныя народы. Характэрнаю рысай Кастрычніцкай рэвалюцыі з'яўляецца той факт, што яна правяла ў СССР гэтыя нацыянальна-каланіяльныя рэвалюцыі не пад флагам нацыянальнай варожасці і міжнацыянальных сутычак, а пад флагам узаемнага давер'я і брацкага зближэння рабочых і сялян нацыянальнасцей СССР, не ў імя **нацыяналізма**, а ў імя **інтэрнацыяналізма.**

Іменна таму, што нацыянальна-каланіяльныя рэвалюцыі адбыліся ў нас пад кіраўніцтвам пролетарыята і пад сцягам інтэрнацыяналізма, іменна таму народы-парыі, народы-рабы **ўпершыню** ў гісторыі чалавецтва падняліся да становішча народаў, **сапраўды** свабодных і **сапраўды** роўных, заражаючы сваім прыкладам прыгнечаныя народы ўсяго свету.

Гэта значыць, што Кастрычніцкая рэвалюцыя **адкрыла** новую эпоху, эпоху **каланіяльных** рэвалюцый, праводзімых **у прыгнечаных** краінах свету **ў саюзе** з пролетарыятам, **пад кіраўніцтвам** пролетарыята.

Раней «прынята было» думаць, што свет раздзелен спакон на ніжэйшыя і вышэйшыя расы, на чорных і белых, з якіх першыя няздольны да цывілізацыі і асуджаны быць аб'ектам эксплаатацыі, а другія з'яўляюцца адзінымі носьбітамі цывілізацыі, закліканымі эксплаатаваць першых. Цяпер гэту легенду трэба лічыць разбітай і адкінутай. Адным з важнейшых рэзультатаў Кастрычніцкай рэвалюцыі з'яўляецца той факт, што яна нанесла гэтай легендзе смяротны ўдар, паказаўшы на справе, што вызваленыя нееўрапейскія народы, уцягнутыя ў русло совецкага развіцця, здольны рушыць уперад **сапраўды**



передавую культуру і **сапраўды** передавую цывілізацыю ніколькі не менш, чым народы еўрапейскія.

Раней «прынята было» думаць, што адзіным метадам вызвалення прыгнечаных народаў з'яўляецца метад **буржуазнага нацыяналізма**, метад адпадзення нацый друг ад друга, метад іх раз'яднання, метад узмацнення нацыянальнай варожасці паміж працоўнымі масамі розных нацый. Цяпер гэту легенду трэба лічыць абвергнутай. Адным з важнейшых рэзультатаў Кастрычніцкай рэволюцыі з'яўляецца той факт, што яна нанесла гэтай легендзе смяротны ўдар, паказаўшы на справе магчымасць і мэтазгоднасць **пролетарскага, інтэрнацыянальнага** метада вызвалення прыгнечаных народаў, як адзіна правільнага метада, паказаўшы на справе магчымасць і мэтазгоднасць **брацкага саюза** рабочых і сялян самых рознастайных народаў на пачатках **добраахвотнасці і інтэрнацыяналізма.** Існаванне Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, які з'яўляецца правобразам будучага аб'яднання працоўных усіх краін у адзінай сусветнай гаспадарцы, не можа не служыць прамым таму довадам.

Няма чаго і гаварыць, што гэтыя і падобныя ім рэзультаты Кастрычніцкай рэволюцыі не маглі і не могуць застацца без сур'ёзнага ўплыву на рэволюцыйны рух у каланіяльных і залежных краінах. Такія факты, як рост рэволюцыйнага руху прыгнечаных народаў у Кітаі, у Інданезіі, у Індыі і т. д. і нарастанне сімпатый гэтых народаў да СССР,—з бясспрэчнасцю гавораць пра гэта.

Эра бесклапотнай эксплаатацыі і прыгнечання калоній і залежных краін **прашла.**

**Наступіла** эра вызваленчых рэволюцый у калоніях і залежных краінах, эра прабуджэння **пролетарыята** гэтых краін, эра яго **гегемоніі** ў рэволюцыі.

3. Кінуўшы насенне рэволюцыі як у цэнтры імперыялізма, так і ў яго тылы, аслабіўшы магутнасць імперыялізма ў «метраполіях» і расхістаўшы яго панаванне ў калоніях,—Кастрычніцкая рэволюцыя паставіла тым самым пад пытанне само існаванне сусветнага капіталізма **ў цэлым.**

Калі стыхійнае развіццё капіталізма ва ўмовах імперыялізма перарасло,—з прычыны яго няроўнамернасці, з прычыны немінучасці канфліктаў і ваенных сутычак, з прычыны, нарэшце, небывалай імперыялістычнай бойні,—у працэс «загнівання» і «уміранне» капіталізма, то Кастрычніцкая рэволюцыя і звязанае з ёю адпадзенне велізарнай краіны ад сусветнай сістэмы капіталізма не маглі не паскорыць гэтага працэсу, падмываючы крок за крокам самыя асновы сусветнага імперыялізма.

Больш таго. Расхістваючы імперыялізм, Кастрычніцкая рэволюцыя стварыла разам з тым у асобе першай пролетарскай дыктатуры магутную і адкрытую **базу** сусветнага рэволюцыйнага руху, якой ён **ніколі не меў** раней і на якую ён можа цяпер абаперціся.

Яна стварыла той магутны і адкрыты **цэнтр** сусветнага рэволюцыйнага руху, якога ён **ніколі не меў** раней і вакол якога ён можа цяпер згуртоўвацца, арганізуючы **адзіны рэволюцыйны фронт пролетарыяў і прыгнечаных народаў усіх краін супроць імперыялізма.**

Гэта значыць перш за ўсё, што Кастрычніцкая рэволюцыя нанесла сусветнаму капіталізму смяротную рану, ад якой ён ніколі не аправіцца больш. Іменна таму капіталізм ніколі больш не верне сабе той «роўнавагі» і той «устойлівасці», якімі ён уладаў да Кастрычніка. Капіталізм можа часткова стабілізавацца, ён можа рацыяналізаваць сваю вытворчасць, аддаць кіраванне краінай фашызму, заціснуць часова рабочы клас, але ён ніколі не верне сабе таго «спакою» і той «упэўненасці», той «роўнавагі» і той «устойлівасці», якімі ён шчыгаляў раней, бо крызіс сусветнага капіталізма дашоў да такой ступені развіцця, калі агні рэволюцыі немінуча павінны прарывацца то ў цэнтрах імперыялізма, то ў перыферыі, зводзячы на-смарку капіталістычныя заплаты і набліжаючы дзень за днём падзенне капіталізма. Акурат як у вядомай басні: «хвост выцягнуў—нос увяз, нос выцягнуў—хвост увяз».

Гэта значыць, па-другое, што Кастрычніцкая рэволюцыя падняла на пэўную вышыню сілу і ўдзельную вагу, мужнасць і баявую гатоўнасць прыгнечаных класаў усяго свету, прымушаючы пануючыя класы лічыцца з імі, як з **новым,** сур'ёзным фактарам. Цяпер ужо нельга разглядаць працоўныя масы свету як «сляпы натоўп», які бродзіць упоцемкі і пазбаўлен перспектыў, бо Кастрычніцкая рэволюцыя стварыла для іх маяк, які асвятляе ім дарогу і дае перспектывы. Калі не было раней **усясветнага** адкрытага форума, адкуль можна было-б дэманстраваць і афармляць надзеі і імкненні прыгнечаных класаў, то цяпер такі форум ёсць у асобе першай пролетарскай дыктатуры. Наўрад ці можна сумнявацца, што зніштажэнне гэтага форума пакрыла-б на доўгі час грамадска-палітычнае жыццё «перадавых краін» змрокам нястрымнай чорнай рэакцыі. Нельга адмаўляць таго, што нават просты факт існавання «большэвіцкай дзяржавы» накладае вузду на чорныя сілы рэакцыі, палягчаючы прыгнечаным класам барацьбу за сваё вызваленне. Гэтым уласна і тлумачыцца тая жывёльная нянавісць, якую адчуваюць эксплаататары ўсіх краін да большэвікоў. Гісторыя паўтараецца, хоць і на новай аснове. Як раней, у перыяд падзення **феадалізма,** слова «якабінец» выклікала ў арыстакратаў усіх краін жах і агідлівасць, так і цяпер, у перыяд падзення **капіталізма,** слова «большэвік» выклікае ў буржуазных краін жах і агідлівасць. І, наадварот, як раней Парыж з'яўляўся прытулкам і школай для рэволюцыйных прадстаўнікоў **буржуазіі,** якая падымалася, так і цяпер Масква з'яўляецца прытулкам і школай для рэволюцыйных прадстаўнікоў **пролетарыята,** які ладымаецца. Нянавісць да якабінцаў

не выратавала феадалізма ад крушэння. Ці можна сумнявацца, што нянавісць да большэвікоў не выратуе капіталізм ад яго немінучага разгрому?

Эра «устойлівасці» капіталізма **прашла**, панёсшы з сабою легенду аб непахіснасці буржуазных парадкаў.

**Наступіла** эра крушэння капіталізма.

4. Кастрычніцкая рэволюцыя не ёсць толькі рэволюцыя ў галіне эканамічных і грамадска-палітычных адносін. Яна ёсць разам з тым рэволюцыя ў розумах, рэволюцыя ў ідэалогіі рабочага класа. Кастрычніцкая рэволюцыя нарадзілася і акрэпла пад флагам марксізма, пад флагам ідэі дыктатуры пролетарыята, пад флагам ленінізма, які ёсць марксізм эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый. Яна знамянуе таму перамогу марксізма над рэфармізмам, перамогу ленінізма над соцыял-дэмакратызмам, перамогу III Інтэрнацыянала над II Інтэрнацыяналам.

Кастрычніцкая рэволюцыя правяла непраходную баразну паміж марксізмам і соцыял-дэмакратызмам, паміж палітыкай ленінізма і палітыкай соцыял-дэмакратызма. Раней, **да перамогі дыктатуры пролетарыята**, соцыял-дэмакратыя магла шчыгаляць флагам марксізма, не адмаўляючы адкрыта ідэі дыктатуры пролетарыята, але і не робячы нічога, абсалютна нічога для таго, каб наблізіць ажыццяўленне гэтай ідэі, бо такія паводзіны соцыял-дэмакратыі не стваралі ніякай пагрозы для капіталізма. Тады, у той перыяд, соцыял-дэмакратыя фармальна злівалася, або амаль злівалася, з марксізмам. Цяпер, **пасля перамогі дыктатуры пролетарыята**, калі ўсе ўбачылі навочна, **да чаго** вядзе марксізм і **што** можа азначаць яго перамога, соцыял-дэмакратыя ўжо не магла шчыгаляць флагам марксізма, не магла какетнічаць з ідэяй дыктатуры пролетарыята, не ствараючы вядомай небяспекі для капіталізма. Даўно парваўшы з духам марксізма, яна аказалася вымушанай парваць і з флагам марксізма, стала адкрыта і недвухсэнсна супроць дзецішча марксізма, супроць Кастрычніцкай рэволюцыі, супроць першай у свеце дыктатуры пролетарыята. Цяпер яна павінна была адмежавацца, і сапраўды адмежавалася, ад марксізма, бо нельга пры цяперашніх умовах называць сябе марксістам, не падтрымліваючы адкрыта і беззаветна першую ў свеце пролетарскую дыктатуру, не ведучы рэволюцыйнай барацьбы супроць сваёй буржуазіі, не ствараючы ўмоў для перамогі дыктатуры пролетарыята ў сваёй уласнай краіне. Паміж соцыял-дэмакратыяй і марксізмам лягло бяздонне. Ад гэтага часу **адзіным** носьбітам і аплотам марксізма з'яўляецца ленінізм, комунізм.

Але справа гэтым не абмежавалася. Адмежаваўшы соцыял-дэмакратыю ад марксізма, Кастрычніцкая рэволюцыя пашла далей, адкінуўшы яе ў лагер прамых абаронцаў капіталізма **супроць першай** у свеце пролетарскай дыктатуры. Калі п. п. Адлеры і Бауэры, Вельсы

і Леві, Лонгэ і Блюмы паносяць «совецкі рэжым», усхваляючы парламенцкую «дэмакратыю», то гэтым яны хочуць сказаць, што яны змагаюцца і будуць змагацца за аднаўленне капіталістычных парадкаў у СССР, за захаванне капіталістычнага рабства ў «цывілізаваных» дзяржавах. Цяперашні соцыял-дэмакратызм ёсць **ідэйная апора** капіталізма. Ленін быў тысячу раз праў, калі ён гаварыў, што цяперашнія соцыял-дэмакратычныя палітыкі з'яўляюцца «сапраўднымі агентамі буржуазіі ў рабочым руху, рабочымі прыказчыкамі класа капіталістаў», што ў «грамадзянскай вайне пролетарыята з буржуазіяй» яны немінуча стануць «на бок версальцаў супроць комунараў». **Немагчыма пакончыць з капіталізмам, не пакончыўшы з соцыял-дэмакратызмам у рабочым руху.** Таму эра ўмірання капіталізма з'яўляецца разам з тым эрай умірання соцыял-дэмакратызма ў рабочым руху. Вялікае значэнне Кастрычніцкай рэвалюцыі заключаецца, паміж іншым, у тым, што яна знамянуе сабой немінучую перамогу ленінізма над соцыял-дэмакратызмам у сусветным рабочым руху.

Эра панавання II Інтэрнацыянала і соцыял-дэмакратызма ў рабочым руху **скончылася.**

**Наступіла** эра панавання ленінізма і III Інтэрнацыянала.

# Прыём кіруючых работнікаў і стаханаўцаў металургічнай і вугальнай прамысловасці кіраўнікамі Партыі і Ўрадаў Крэмлі 29 кастрычніка 1937 года

Вечарам 29 кастрычніка кіраўнікі Партыі і Ўрада прынялі ў Крэмлі ўдзельнікаў нарад, якія адбываліся ў Наркамцяжы, работнікаў металургіі і вугальнай прамысловасці.

На прыёме прысутнічала 400 чалавек—дырэктары, інжынеры, начальнікі цэхаў, майстры і рабочыя-стаханаўцы металургічных, кокса-хімічных, жалезарудных і агнетрывалых прадпрыемстваў, шахцёры-стаханаўцы, кіраўнікі вугальных трэстаў, загадчыкі шахтамі і кіруючыя работнікі Наркамцяжа.

У 7 гадзін 30 мінут вечара ў памяшканні Гранавітай палаты, дзе сабраліся металургі і вугальшчыкі, з'яўляюцца таварышы **Сталін, Молатаў, Кагановіч, Варашылаў, Калінін, Мікаян, Ежоў, Чубар, Хрушчоў, Булганін, Межлаук, Шкіратаў,** сустрэтыя гарачай авацыяй.

**Народны камісар цяжкай прамысловасці таварыш Л. М. Кагановіч, адкрываючы гутарку, гаворыць:**

«Таварышы! Пасля работы нашых нарад металургі і вугальшчыкі маюць гонар сустрэцца ў сяброўскай абстаноўцы з кіраўнікамі партыі і ўрада. Работнікам металургічнай, вугальнай, кокса-хімічнай, агнетрывалай і жалезаруднай прамысловасці аказан вялікі гонар, які, я ўпэўнен, яны апраўдаюць на справе.

Таварышы, члены ўрада! Металургі і вугальшчыкі стараюцца зараз выйсці з часовых затрудненняў. На нашай нарадзе мы па-большэвіцку, па-сталінску ўскрылі нашы недахопы, намецілі шляхі іх перамагання, каб у кароткі тэрмін дабіцца новага ўздыму. Залог гэтага ў тым, што рады стаханаўцаў множацца.

Агаласім першы тост за нашых слаўных рабочых-стаханаўцаў і кіраўнікоў металургічнай прамысловасці. За ваша здароўе, таварышы!

Вугаль—прадаўжае таварыш **Кагановіч**—гэта харч для ўсіх галін народнай гаспадаркі. Без яго няма энергіі, няма працуючых заводаў, транспарту, вугальная прамысловасць займае таму рашаючае месца ў народнай гаспадарцы. Работнікі вугальнай прамысловасці прыкладаюць зараз вялікія намаганні, каб павесці вугальную прамысловасць на новы ўздым. Нядаўна ў Донбасе прайшлі злёты шахцёраў-стаха-

наўцаў і ўдарнікаў, удзельнікамі якіх былі 14 з паловай тысяч выдатных людзей—герояў працы, выканаўшых нормы на 200 і 300 процантаў. Яны пакляліся і прасілі перадаць таварышу Сталіну, што шахцёры Донбаса ўзнімуць здабычу вугалю, узнімуць вугальную прамысловасць Донбаса. Такое-ж абяцанне даюць і вугальшчыкі Падмаскоўнага, Кузнецкага, Карагандзінскага і іншых басейнаў.

Агалосім тост за слаўных шахцёраў, стаханаўцаў, за перадавых камандзіраў вугальнай прамысловасці, за іх здароўе і працвітанне!».

Апошнія словы таварыша Кагановіча пакрываюцца бурнымі апладысментамі. Увесь зал доўга вітае металургаў і прадстаўнікоў слаўнага вугальнага Донбаса і Падмаскоўнага басейна.

Услед за гэтым таварыш **Кагановіч** агалашае тост за вялікага правадыра народаў, любімага і роднага таварыша **Сталіна.**

«Таварышы! З усім народам, са слаўнымі імёнамі стаханаўцаў цесна звязана вялікае, роднае і любімае імя таварыша **Сталіна.** За здароўе таварыша **Сталіна!»** **(Бурная авацыя. Усе прысутныя, стоячы, вітаюць правадыра народаў таварыша Сталіна доўга не змаўкаючымі апладысментамі і крыкамі «Ура. Няхай жыве любімы Сталін»).**

Таварыш Кагановіч, указаўшы, што ўся цяжкая прамысловасць павінна дабіцца новага ўздыму, агалашае тост за рабочых, стаханаўцаў і кіраўнікоў усіх астатніх галін цяжкай прамысловасці: нафтавікоў, хімікаў, будаўнікоў, работнікаў электрастанцый, медныхруднікоў і заводаў каляровых і рэдкіх металаў, работнікаў залатых прыскаў, геолагаў, тарфянікаў, за работнікаў Наркамцяжпрома. Таварыш **Кагановіч** агалашае тост за рабочых і кіраўнікоў, якія нядаўна выдзеліліся з Наркамцяжпрома,—работнікаў машынабудаўніцтва і абароннай прамысловасці. **(Апладысменты).**

Таварыш **Кагановіч** агалашае тост за здароўе старшыні Совета Народных Камісараў СССР—Вячэслава Міхайлавіча **Молатава,** за старэйшага металіста старшыню ЦВК СССР Міхаіла Іванавіча **Калініна,** за маршала Совецкага Саюза наркома абароны Кліменція Ефрэмавіча **Варашылава,** арганізатара і наркома нашай харчовай прамысловасці таварыша Анастаса Іванавіча **Мікаяна,** слаўнага наркома ўнутраных спраў СССР таварыша Нікалая Іванавіча **Ежова,** сакратара ЦК ВКП(б) таварыша **А. А. Андрэева;** за гасцінную чырвоную Маскву, за масквічоў і кіраўніка маскоўскіх большэвікоў **Н. С. Хрушчова,** за членаў урада СССР і РСФСР. **(Авацыі і воклічы «Ура»).**

У кароткім слове таварыш **Молатаў** агалашае тост за стаханаўцаў, металургаў і вугальшчыкаў, за народнага камісара цяжкай прамысловасці Лазара Маісеевіча **Кагановіча.**

«Закончылася нарада адной з самых важных галін прамысловасці, якую мы маем у нашай краіне,—нарада работнікаў чорнай металургіі. Вам прыдзецца,—гаворыць таварыш **Молатаў,**—яшчэ вельмі многа папрацаваць, каб нагнаць упушчанае».

**Сталін.**—«Прайсці праз некаторыя цяжкасці перад уздымам».

**Молатаў.**—«Таварыш **Сталін** гаворыць аб неабходнасці перамагання цяжкасцей перад уздымам. Мы спадзяемся, што металургі пераможуць гэтыя цяжкасці і зоймуць належнае ім месца. Такое-ж месца зоймуць і работнікі вугальнай прамысловасці.

— Дазвольце пажадаць вам,—гаворыць таварыш **Молатаў,**—дабіцца ў чорнай металургіі, вугальнай прамысловасці і ў іншых галінах цяжкай прамысловасці такіх-жа поспехаў, якіх дабіліся чыгуначнікі пад кіраўніцтвам Лазара Маісеевіча **Кагановіча». (Авацыя, воклічы «Ура»).**

Таварыш **Варашылаў** у сваім слове прыносіць сардэчную чырвонаармейскую ўдзячнасць металургам і вугальшчыкам, работнікам цяжкай прамысловасці за тое, што яны далі магчымасць Чырвонай Арміі так узброіцца, стаць такой сілай, якой баяцца ворагі. «Але ў маёй удзячнасці,—гаворыць таварыш **Варашылаў,**—заключаецца і патрабаванне—працаваць яшчэ лепш на абарону нашай радзімы, даваць больш вугалю і метала, а нашы ўзбраенцы павінны даць нам яшчэ больш дасканалыя машыны». **(Авацыя. Воклічы: «Ура Чырвонай Арміі і яе кіраўніку таварышу Варашылаву»).**

**Слова прадастаўляецца таварышу Сталіну.** Усе прысутныя ўстаюць і наладжваюць таварышу **Сталіну** бурную авацыю. Нясуцца крыкі: **«ура», «няхай жыве наш любімы, родны таварыш Сталін».**

«Таварышы,—пачынае сваё слова таварыш **Сталін.**—Тост у мяне будзе некалькі своеасаблівы і незвычайны. У нас прынята агалашаць тосты за здароўе кіраўнікоў, шэфаў, за правадыроў, за наркомаў. Гэта, вядома, не дрэнна. Але апрача вялікіх кіраўнікоў ёсць яшчэ кіраўнікі сярэднія і малыя. Іх, гэтых кіраўнікоў, малых і сярэдніх, ёсць у нас дзесяткі тысяч. Яны скромныя людзі, яны не лезуць наперад, іх амаль непрыметна. Але было-б слепатой не заўважваць іх. Бо ад гэтых людзей залежыць лёс вытворчасці ва ўсёй нашай народнай гаспадарцы. Значыць, ад іх залежыць і лёс нашага гаспадарчага кіраўніцтва.

За здароўе нашых сярэдніх і малых гаспадарчых кіраўнікоў! **(Авацыя. Воклічы «ура»!).**

Наогул аб кіраўніках трэба сказаць, што яны, на жаль, не заўсёды разумеюць, на якую вышку падняла іх гісторыя ва ўмовах совецкага ладу. Яны не заўсёды разумеюць, што быць кіраўніком гаспадаркі ў нашых умовах,—гэта значыць—удастоіцца вялікага гонару і вялікай пашаны, удастоіцца вялікага давер'я з боку рабочага класа, з боку народу. У стары час, у час капіталізма, гаспадарчыя кіраўнікі, усякія там дырэктары, упраўляючыя, начальнікі цэхаў, майстры лічыліся ланцужнымі сабакамі гаспадароў-капіталістаў. Народ іх ненавідзеў, як ворагаў, бо лічыў, што яны кіруюць гаспадаркай у інтарэсах гаспадароў, дзеля прыбыткаў капіталістаў. Пры нашым, совецкім ладзе, наадварот, гаспадарчыя кіраўнікі маюць усе падставы карыстацца давер'ем і любоўю народу, бо яны кіруюць гаспадаркай не дзеля

прыбыткаў кучкі капіталістаў, а дзеля інтарэсаў рабочага класа, дзеля інтарэсаў усяго народу. Вось чаму званне гаспадарніка ў нашых умовах з'яўляецца высокім званнем, а быць кіраўніком у савецкіх умовах—значыць удастоіцца высокага гонару і давер'я ў вачах народу. Давер'е народа ў адносінах гаспадарнікаў справа вялікая, таварышы. Кіраўнікі прыходзяць і ўходзяць, а народ астаецца. Толькі народ бяссмертны. Усё астатняе—мінаюча. Таму трэба ўмець даражыць давер'ем народа.

За здароўе нашых гаспадарнікаў, якія зразумелі, усвядомілі сваю высокую ролю і якія не дазволяць нікому ўраніць і прынізіць высокае званне совецкага гаспадарчага кіраўніка! **(Авацыя, воклічы «ура»).**

Таварышы! Сярод нас ёсць піонеры новай справы ў народнай гаспадарцы, байцы стаханаўскага руху. За здароўе гэтых піонераў і байцоў новай справы! За здароўе таварышоў Стаханава, Дзюканава, Ізотава, Рабашапкі і іншых! **(Воклічы «ура»).**

Нарэшце, за здароўе новых і старых байцоў доменнай справы ў металургіі, і перш за ўсё, за здароўе доменшчыка тав. Корабава, за Корабава-бацьку, за сына яго, за ўсю сям'ю доменшчыкаў Корабавых, за тое, каб сям'я Корабавых не адстала ад новых метадаў работы». **(Бурныя апладысменты, воклічы «ура»).**

Корабаў-бацька, звяртаючыся да таварыша **Сталіна,** гаворыць: «Таварыш Сталін. Я ўжо старык, але я пакладу ўсе свае сілы, каб выканаць Ваша пажаданне і быць наперадзе іншых металургаў» .

Сяброўская сустрэча кіраўнікоў партыі і ўрада з металургамі і вугальшчыкамі зацягнулася далёка за поўнач. Для ўдзельнікаў прыёму быў дан канцэрт Чырвонасцяжнага чырвонаармейскага ансамбля песні і пляскі пад кіраўніцтвам народнага артыста Саюза ССР, ордэнаносца праф. Александрава, які прайшоў з вялікім поспехам.

---



# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ АБ ЧАРГОВЫМ ПЛЕНУМЕ ЦК ВКП(б)

11-12 кастрычніка адбыўся чарговы пленум Цэнтральнага Камітэта ВКП(б).

Пленум разглядзеў пытанні выбарчай кампаніі па выбарах Вярхоўнага Совета СССР і прыняў адпаведныя рашэнні.

Пленум прыняў, акрамя таго, рашэнне аб арганізацыйнай і агітацыйна-прапагандысцкай рабоце партыйных арганізацый у сувязі з выбарамі ў Вярхоўны Совет СССР.

Пленум увёў у склад кандыдатаў у члены Палітбюро ЦК ВКП(б) сакратара ЦК ВКП(б) тав. Ежова Н. І.

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ АБ ЧАРГОВЫМ ПЛЕНУМЕ ЦК КП(б)Б

25 кастрычніка 1937 года адбыўся пленум ЦК КП(б) Беларусі.

Пленум выбраў выконваючым абавязкі трэцяга сакратара ЦК КП(б)Б тав. Рэпінскага М. Я., раней працаваўшага в. а. першага сакратара Слуцкага АК КП(б)Б.

Пленум давыбраў членамі Бюро ЦК КП(б)Б тт. Ананьева А. А. і Цвяткова А. Ф. і кандыдатам у члены Бюро ЦК тав. Жабрэва І. А.



# XX год Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі

Народы Совецкага Саюза—краіны перамогшага соцыялізма—урачыста і радасна сустракаюць дваццатую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі, гадавіну свайго вызвалення ад капіталістычнага рабства.

За дваццаць год на агромных прасторах былой эканамічна і культурна адсталай, галоднай, жабрацкай Расіі створана новая, цудоўная соцыялістычная краіна, новы свет, вызвалены народ якога накіроўвае сваю ініцыятыву, сваю творчую здольнасць, сваю працу на сябе, на карысць свайго класа, свайго соцыялістычнага грамадства. Гэты новы свет—краіна Советаў—для працоўных мас усяго капіталістычнага свету з'яўляецца маяком, які ўказвае шлях да вызвалення з-пад гнёту капіталізма. Тое, аб чым вякамі марылі лепшыя розумы чалавецтва, у Совецкім Саюзе ператворана ў рэчаіснасць.

Жыццё працоўных мас нашай краіны з кожным годам становіцца ўсё больш заможным і радасным. Совецкі народ упэўнен у сваёй будучыні, якая прынясе яму новыя перамогі, новае палепшанне матар'яльнага добрабыту.

Совецкі народ горача любіць сваю квітнеючую соцыялістычную радзіму. Ён бязмежна адданы партыі Леніна—Сталіна, якая пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна прывяла краіну Советаў да перамогі соцыялізма. Гэта любоў і адданасць ярка адлюстроўваюцца зараз у падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет СССР.

Вялікая соцыялістычная рэволюцыя ў Расіі адкрыла новую эру—пачатак будаўніцтва бяскласавага соцыялістычнага грамадства. У гэтым грамадстве народы становяцца сапраўднымі гаспадарамі свайго лёсу, поўнапраўнымі гаспадарамі свайго жыцця, свядомымі арганізатарамі прадукцыйных сіл, эканомікі і культуры сваёй краіны.

Велізарныя перамогі соцыялізма з выключнай пераканальнасцю паказваюць усяму свету, што пралетарская рэволюцыя ў Расіі адкрыла новую эру ў гісторыі развіцця чалавечага грамадства.

Совецкі народ пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, перамагаючы ўсе цяжкасці і перашкоды, дасягнуў нябачаных поспехаў на ўсіх фронтах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Натхнёныя сваім вялікім правадыром і настаўнікам таварышом Сталіным, працоўныя масы Совецкага Саюза ператварылі сваю радзіму з экана-

мічна адсталай, слабай і некультурнай у культурную магутную індустрыяльную краіну з перадавой тэхнікай і буйнейшай у свеце механізаванай соцыялістычнай сельскай гаспадаркай. «Расія нэпаўская» стала «Расіяй соцыялістычнай».

> «У рэзультаце ўсіх гэтых змен у галіне народнай гаспадаркі СССР мы маем цяпер новую, соцыялістычную эканоміку, якая не ведае крызісаў і беспрацоўя, не ведае галечы і разарэння і дае грамадзянам усе магчымасці для заможнага і культурнага жыцця» (**Сталін**).

Вянцом гераічнай барацьбы совецкага народу за перамогу соцыялізма з'яўляецца Сталінская Канстытуцыя.

Совецкаму народу ёсць чаму радавацца. К 20-гадоваму юбілею Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна ён замацаваў перамогу соцыялізма ў сваёй краіне і атрымаў самую дэмакратычную ў свеце Канстытуцыю, самы дэмакратычны Выбарчы закон.

12 снежня народы вялікага Саюза Советаў будуць выбіраць Вярхоўныя органы сваёй краіны на аснове Сталінскай Канстытуцыі і новага Выбарчага закона. У Вярхоўны Совет СССР яны пашлюць сваіх лепшых прадстаўнікоў з партыйных і непартыйных большэвікоў, да канца адданых сваёй цудоўнай радзіме, справе Леніна—Сталіна, справе комунізма.

* * *

У процілегласць капіталістычнай сістэме асновай дыктатуры рабочага класа нашай краіны з'яўляецца соцыялістычная і грамадская ўласнасць.

У артыкуле 4 Сталінскай Канстытуцыі запісана:

> «Эканамічную аснову СССР складаюць соцыялістычная сістэма гаспадаркі і соцыялістычная ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці, якія ўмацаваліся ў выніку ліквідацыі капіталістычнай сістэмы гаспадаркі, адмены прыватнай уласнасці на прылады і сродкі вытворчасці і знішчэння эксплаатацыі чалавека чалавекам».

І гэта не дэкларацыя, не праграмная задача, а сапраўдная рэчаіснасць, аб чым красамоўна гавораць лічбовыя даныя.

Удзельная вага соцыялістычнага сектара нашай гаспадаркі ў 1936 годзе складала: у народным даходзе—99,1 проц., у валавой прадукцыі прамысловасці—99,8 проц., у валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі (уключаючы асабістыя гаспадаркі калгаснікаў)—97,7 проц., у гандлёвым рознічным звароце—100,0 проц., у вытворчых фондах народнай гаспадаркі—98,7 проц.

За дваццаць год дыктатуры рабочага класа карэнным чынам змяніўся і соцыяльны склад насельніцтва СССР. У былой царскай Расіі

рабочыя і служачыя складалі 16,7 проц. усяго насельніцтва, а зараз, у 1937 годзе, яны складаюць 34,7 проц. Сяляне аднаасобнікі (без кулакоў) і некааператаваныя працоўныя саматужнікі складалі 65,1 проц., а зараз—усяго 5,6 проц. Калгаснае сялянства, кааператаваныя саматужнікі і рамеснікі складаюць 55,5 проц., а іншае насельніцтва (чырвонаармейцы, пенсіянеры, вучні і т. д.)—4,2 проц. Цалкам ліквідаваны буржуазія, памешчыкі, фабрыканты, гандляры, кулацтва і іншыя дармаеды, якіх у царскай Расіі ў 1913 годзе налічвалася 15,9 проц.

Совецкая ўлада атрымала ў спадчыну ад капіталістычнай Расіі канчаткова разбураную імперыялістычнай і грамадзянскай войнамі і без таго слабую, тэхнічна адсталую прамысловасць. Прадукцыя буйнай прамысловасці ў агульнай прадукцыі народнай гаспадаркі складала ўсяго 42,1 проц., прадукцыя сельскай гаспадаркі—57,9 проц.

К дваццатай гадавіне Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі СССР па развіццю прамысловасці вышаў на першае месца ў Еўропе і на другое ў свеце. Партыя, совецкая ўлада і ўвесь совецкі народ гераічнай барацьбой забяспечылі ажыццяўленне лозунга таварыша Сталіна—«дагнаць і перагнаць ў тэхніка-эканамічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны». Створана магутная прамысловасць і яе аснова—цяжкая машынабудаўнічая індустрыя. Совецкі Саюз, які ў гады індустрыялізацыі і першай пяцігодкі вымушан быў завозіць сродкі вытворчасці з капіталістычных краін, стаў краінай, якая экспартуе як сродкі вытворчасці (машыны, станкі), так і іншую прадукцыю прамысловасці. СССР за 9 месяцаў 1937 г. экспартаваў у розныя капіталістычныя краіны машын на 8,4 млн. рублёў, аўтатранспарта на 15,7 млн. руб., электрапрадукцыі на 1,2 млн. руб., марганцавай руды на 18,9 млн. руб. і т. д.

За гады двух сталінскіх пяцігодак створаны новыя галіны прамысловасці, якіх зусім не мела царская Расія. Зараз мы маем магутную трактарную, аўтамабільную, камбайнавую, алюмініевую прамысловасць. 75,4 проц. прамысловай прадукцыі СССР выпускаецца заводамі, пабудаванымі і поўнасцю рэканструяванымі совецкаю ўладай. Па асноўных галінах прамысловасці гэты процант яшчэ вышэй: па вытворчасці сродкаў вытворчасці—87,4 проц., па машынабудаўніцтву—88,3 проц., па станкабудаўніцтву—93,7, па электрастанцыях—90,8, па хімічнай—95,2, па чорнай металургіі—96,6, па сельскагаспадарчаму машынабудаўніцтву—95,3 проц. і т. д.

З ростам прамысловасці ўзрос і рабочы клас СССР (з 11,4 млн. чалавек у 1913 г. да 25,8 млн. у 1936 годзе). Наш рабочы клас ужо не той, што быў пры царызме і капіталізме.

«Гэта значыць, што пролетарыят СССР ператварыўся ў зусім новы клас, у рабочы клас СССР, які знішчыў капіталістычную сістэму гаспадаркі, які ўцвярдзіў соцыялістычную ўласнасць на прылады і сродкі вытворчасці і які накіроўвае совецкае грамадства па шляху комунізма.

... рабочы клас СССР гэта—зусім новы, вызвалены ад эксплаатацыі, рабочы клас, падобнага якому не ведала яшчэ гісторыя чалавецтва». **(Сталін).**

Эканамічная магутнасць нашай краіны і матар'яльны добрабыт працоўных мас ярка адлюстроўваецца ў росце народнага даходу. Народны даход (у цэнах 1926-27 гг.) узрос з 21 мільярда рублёў у 1913 годзе да 86 мільярдаў рублёў у 1936 годзе.

Калгасны лад назаўсёды пакончыў з адвечнай адсталасцю сельскай гаспадаркі. Наша сельская гаспадарка—самая буйная у свеце, найбольш узброеная перадавой тэхнікай. К дваццатай гадавіне Кастрычніка 243.700 калгасаў аб'ядналі 18,5 мільёнаў двароў або 93,0 проц. усіх сялянскіх гаспадарак. Сёлета калгасы апрацавалі 99,1 проц. усёй пасеўнай плошчы калгасна-сялянскага сектара.

За гады двух сталінскіх пяцігодак пад соцыялістычную сельскую гаспадарку падведзена магутная тэхнічная база. Калгаснага селяніна совецкая ўлада і партыя большэвікоў пасадзіла на сталёвага каня—на трактар, камбайн, аўтамабіль. У адным толькі 1936 годзе соцыялістычная прамысловасць дала сельскай гаспадарцы 116.054 трактары магутнасцю ў 2.646,4 тысячы конскіх сіл, 42.600 камбайнаў і некалькі соцень тысяч сеялак, культыватараў, ільнацерабілак, трактарных плугоў, малатарань, бульбакапалак і іншых складаных сельскагаспадарчых машын.

Партыя і совецкая ўлада прадастаўляюць калгаснаму сялянству доўгатэрміновыя крэдыты, мінеральнае ўгнаенне, гатунковае насенне і іншыя віды дапамогі.

Клопаты партыі, совецкага ўрада і асабіста таварыша Сталіна аб уздыме прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі і матар'яльнага добрабыту калгаснага сялянства не прайшлі бясследна. З года ў год павышаецца прадукцыйнасць працы, расце вытворчасць сельскагаспадарчых прадуктаў. Пасеўная плошча пашырылася са 105,0 млн. га ў 1913 г. да 135,2 млн. га ў 1937 г., а прадукцыя вырасла ў два разы.

Геаграфічныя ўмовы нашай радзімы дазваляюць вырошчваць усе культуры, неабходныя для спажывання ў соцыялістычнай прамысловасці. Дзякуючы гэтаму наша краіна не толькі поўнасцю аслабанілася ад імпарту бавоўны і іншай сельскагаспадарчай сыравіны, але сама стала краінай экспартуючай. За 9 месяцаў 1937 года СССР экспартаваў бавоўны ў розныя капіталістычныя краіны на 43,3 млн. рублёў.

З кожным годам расце заможнасць калгаснага сялянства. У пісьме «Вялікаму СТАЛІНУ ад беларускага народу» ярка адлюстравана калгаснае жыццё:

«Мы багатыя хлебам, і мясам, і рыбай,
І па трубах да хат прыбягае вада.
Зашумелі сады каля новых сядзібаў,
Пчолы рояцца спорна па нашых садах.

**Мы заможнымі сталі з калгаснага ладу:**
Масла, сыр, каўбаса і віно сваё ёсць.
Усяго на стале, і мы шчыра так рады,
Калі хату з дарогі наведае госць».

Калгаснікі-казакі з калгаса «Жывотновод» (станіца Канелаўская, Краснадарскі край) у калектыўным пісьме, апублікаваным у газеце «Правда» 1 кастрычніка г. г., пішуць:

«Зараз мы жывем лепш, заможней... Ніколі казак не меў такіх даходаў, якія мы атрымліваем зараз у калгасе».

Багаты ўраджай гэтага года яшчэ больш узнімае вагу працадня, матар'яльны добрабыт калгаснага сялянства.

Перамога калгаснага ладу—самая яркая старонка ў жыцці нашага сялянства. Толькі ў калгасах сяляне пераканаўча, на практыцы сваёй работы і жыцця, убачылі і пазналі вялікія ідэі, у імя якіх партыя большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным 20 год назад павялі пролетарыят на штурм капіталізма, у імя якіх партыя і рабочы клас заклікалі працоўнае сялянства на барацьбу з капіталістамі, памешчыкамі, кулакамі.

За 20 год аблічча вёскі змянілася непазнавальна. Знікае процілегласць паміж горадам і вёскай, сельскагаспадарчая праца становіцца розн\u0430віднасцю працы індустрыяльнай. У калгаснай вёсцы з'явіліся новыя людзі: камбайнеры, трактарысты, машыністы, брыгадзіры, старшыні калгасаў.

«Наша совецкае сялянства,—гаворыць таварыш Сталін,—з'яўляецца зусім новым сялянствам. У нас няма больш памешчыкаў і кулакоў, купцоў і ліхвяроў, якія маглі-б эксплаатаваць сялян. Стала быць, наша сялянства ёсць вызваленае ад эксплаатацыі сялянства. Далей, наша совецкае сялянства ў сваёй пераважнай большасці ёсць калгаснае сялянства, г. зн. яно базіруе сваю работу і свой набытак не на аднаасобнай працы і адсталай тэхніцы, а на калектыўнай працы і сучаснай тэхніцы...

Як бачыце, совецкае сялянства—гэта зусім новае сялянства, падобнага якому не ведала гісторыя чалавецтва».

* * *

Перамога соцыялізма забяспечыла совецкаму народу небывалы культурны рост.

Навучальнымі ўстановамі ў 1936—1937 навучальным годзе ахоплена было 38.335.000 чалавек або ў 4,7 раза больш, чым у царскай Расіі ў 1914 годзе. З гэтага ліку ў сярэдніх школах навучалася 17.872.000 чалавек або ў 18 раз больш, чым у царскай Расіі, у вышэйшых навучальных установах—542.000 чалавек замест 112.000 у 1914 г.

У 1936 годзе на народную асвету па дзяржаўнаму бюджэту было выдаткавана 13 мільярдаў 461 мільён рублёў.

З ростам культурнага ўзроўню працоўных узрастае попыт на кнігі і газеты.

У 1936 годзе выдана 37.971 тысяча экземпляраў газет і 571.100 тысяч экземпляраў кніг. Твораў класікаў марксізма за 20 год існавання совецкай улады выдана 334 млн. экземпляраў (у 66 раз больш, чым пры царызме за 50 год).

Газеты ў СССР выходзяць на 69 мовах, а кнігі на 111 мовах народаў краіны социялізма. Пры царызме многія народы не мелі ні адной газеты, ні адной кнігі на роднай мове. Царызм зацікаўлен быў трымаць працоўныя масы ў цемры, каб зручней эксплаатаваць, зацямніць рэволюцыйную свядомасць, не дапусціць пранікнення ў народныя гушчы крамольных ідэй. Праявы рэволюцыйнай барацьбы працоўных супроць жандармскага рэжыму, нечалавечай эксплаатацыі і прыгнечання царскі ўрад бязлітасна падаўляў. Недарма царская Расія называлася турмой народаў.

Асвета і культура ў старой Расіі даступны былі толькі прывілеяванай частцы—буржуазіі, памешчыкам, купцам, чыноўнікам. Дзверы вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў былі зачынены для працоўнага насельніцтва. Не маючы сродкаў плаціць за навучанне і падручнікі, многія мільёны рабочых і сялянскіх сямей не маглі пасылаць сваіх дзяцей у школу. У выніку большасць насельніцтва дарэволюцыйнай Расіі была няграматнай.

Партыя большэвікоў і совецкі ўрад паклалі канец і гэтай праклятай спадчыне. Дзверы совецкіх школ, тэхнікумаў, універсітэтаў шырока адчынены для ўсіх працоўных. Совецкая моладзь мае магчымасць набыць любую спецыяльнасць і кваліфікацыю ў залежнасці ад здольнасці і жадання. У нас забяспечана бясплатнае навучанне. Пераважная большасць студэнтаў атрымлівае матэрыяльную дапамогу—стыпендыі.

Нідзе на свеце няма такіх умоў для ўсебаковага развіцця асобы, як у нашай цудоўнай краіне.

> «Не маемаснае становішча, не нацыянальнае паходжанне, не пол, не службовае становішча,—гаворыць таварыш Сталін,—а асабістыя здольнасці і асабістая праца кожнага грамадзяніна вызначаюць яго становішча ў грамадстве».

На базе створанай социялістычнай сістэмы гаспадаркі ўпершыню ў гісторыі заваявана і замацавана асноўным дзяржаўным законам сапраўдная свабода чалавека, свабода творчай ініцыятывы, радаснае і шчаслівае жыццё—права на працу, на адпачынак, на асвету, на забеспячэнне старасці.

Для працоўных мас капіталістычных краін вялікая Сталінская Канстытуцыя стала сцягам і праграмай барацьбы за вызваленне. Яна натхняе міжнародны пролетарыят, прыгнечаныя масы калоній і поўкалоній на барацьбу супроць фашызма, за звяржэнне дыктатуры буржуазіі. Перамогі совецкага народу, замацаваныя Сталінскай Канстытуцыяй, неабвяргальна паказваюць, што толькі пролетарская рэволюцыя, толькі дыктатура пролетарыята забяспечваюць сапраўдную свабоду, сапраўдную дэмакратыю, росквіт эканомікі, культуры і творчай здольнасці працоўных усіх нацыянальнасцей і рас.

Прыгнечаныя масы капіталістычнага свету з усё ўзрастаючым захапленнем і цікавасцю сочаць за гераічнай барацьбой рабочага класа СССР. У яго асобе яны бачаць сваю ўдарную брыгаду і ад сэрца радуюцца кожнаму новаму яго поспеху. Кожная новая перамога совецкага народу набліжае час сусветнай пролетарскай рэволюцыі і з'яўляецца крыніцай энергіі ў барацьбе прыгнечаных мас за знішчэнне ярма капітала.

* * *

Совецкая Беларусь разам з усімі брацкімі рэспублікамі сустракае дваццацігадовы юбілей вялікага Кастрычніка, як краіна соцыялістычная. З адсталай царскай калоніі, з краіны галечы і жабрацтва Совецкая Беларусь пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна, пры брацкай дапамозе СССР і асабістых клопатах таварыша Сталіна, з чыім іменем цесна і непарыўна звязана арганізацыя КП(б)Б і стварэнне БССР, ператворана ў адну з перадавых рэспублік Совецкага Саюза.

Беларускі народ, як і многія народы акраін былой царскай Расіі, дзякуючы перамозе пролетарскай рэволюцыі, на аснове ажыццяўлення ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, упершыню ў гісторыі атрымаў сваю дзяржаўнасць.

Беларускі народ увесь час знаходзіўся пад гнётам розных князёў і цароў, якія няслі з сабой усё больш цяжкія пакуты бяспраўным масам. Рускае самадзяржаўе, захапіўшы беларускія землі, ператварыла ў рабоў працоўныя масы беларусаў. Іх эксплаатаваў рускі царызм і рускія фабрыканты, банкіры і памешчыкі, беларуская буржуазія і кулацтва.

Пасля звяржэння самадзяржаўя і контррэволюцыйнага Часовага ўрада ў Беларусь уварваліся рускія белагвардзейцы, нямецкія і белапольскія акупанты: усякія Даўбор-Мусніцкія, Булак-Балаховічы, Пілсудскія і іншая зграя, якіх падтрымлівалі здраднікі беларускага народу—беларускія нацдэмы і іншыя ланцужныя псы капіталізма.

Пад кіраўніцтвам Леніна—Сталіна наша слаўная непераможная Чырвоная Армія разам з беларускім народам разграміла і прагнала з Совецкай Беларусі нямецкіх, белапольскіх акупантаў і іншых белабандытаў, якія імкнуліся закабаліць беларускі народ.

Совецкая ўлада пад кіраўніцтвам партыі бальшэвікоў разграміла банды інтэрвентаў на ўсіх фронтах грамадзянскай вайны. У ліпені 1920 года былі разгромлены і белапольскія акупанты. Беларусь стала свабоднай краінай у сям'і брацкіх рэспублік вялікага Совецкага Саюза. Для беларускага народу пачалося новае, свабоднае, шчаслівае і радаснае жыццё пад сцягам партыі Леніна—Сталіна.

Пры брацкай дапамозе Совецкага Саюза, у першую чаргу рускага пралетарыята, беларускі народ хутка залячыў свае раны. Адрадзілася разбураная вайной народная гаспадарка. На працягу двух сталінскіх пяцігодак Совецкая Беларусь ператварылася ў адну з перадавых рэспублік СССР. Беларускі народ сваёй упартай барацьбой за перамогу соцыялізма заслужыў высокую ўзнагароду—ордэн Леніна. Беларусь стала ордэнаноснай рэспублікай, магутным фарпостам СССР на яго заходніх граніцах.

Перамогі соцыялізма выклікалі звярыную нянавісць і шаленства ў асколкаў разгромленых эксплаататарскіх класаў, у здраднікаў соцыялістычнай радзімы з лагера трацкісцка-зіноўеўска-бухарынска-рыкаўскай і нацдэмаўскай банды. Для нямецкага і польскага фашызма, які імкнецца адарваць БССР ад Совецкага Саюза, каб зноў закабаліць яе, уся гэта зграя аказалася знаходкай. У якасці агентаў нямецка-польскага фашызма гэтыя здраднікі соцыялістычнай радзімы прабраліся шляхам абману і двурушніцтва на адказныя ўчасткі совецкай, гаспадарчай, культурнай і партыйнай работы і павялі патаемную работу па адрыву БССР ад Совецкага Саюза і аднаўленню капіталізма. Рыхтуючы ваенны напад на краіну Советаў, арганізуючы шкодніцтва, дыверсіі, забойствы з-за вугла лепшых сыноў совецкага народу, гэта агідная банда наймітаў нямецка-польскага фашызма імкнулася падарваць эканоміку і абароназдольнасць БССР, як фарпоста Совецкага Саюза на яго заходніх рубяжах.

Але дарэмны былі прошукі агентаў фашызма. Пад кіраўніцтвам ленінска-сталінскага ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна, пры дапамозе слаўных чэкістаў з НКУС, КП(б)Б і беларускі народ разграмілі гэта асінае гняздо фашыстаў. Увесь беларускі народ са здавальненнем сустрэў рашэнне совецкага суда аб прымяненні да бандытаў з Наркамзема, Заготзерна і інш. вышэйшай меры пакарання. Совецкі суд выканаў волю ўсяго беларускага народу, ачысціўшы беларускую зямлю ад гэтай прадажнай зграі сабак.

ЦК ВКП(б), саюзны ўрад і асабіста таварыш Сталін з першых дзён стварэння БССР праяўляюць да яе вялікія клопаты. Нядаўна быў апублікован сталінскі дэкрэт аб дапамозе беларускаму народу, каб хутчэй ліквідаваць вынікі шкодніцтва ў калгасным будаўніцтве.

За 20 год совецкай улады цудоўна змяніўся твар беларускай зямлі.

У дарэволюцыйны час на Беларусі не было буйнай прамысловасці. На ўсіх прадпрыемствах занята было каля двух дзесяткаў тысяч рабо-

чых. Асновай з'яўлялася саматужна-рамесніцкая прадукцыя, якая ў $3^1/_2$ разы перавышала кошт валавой прадукцыі прамысловых прадпрыемстваў.

Зараз у БССР пабудаваны сотні тэхнічна дасканалых буйных прамысловых прадпрыемстваў: Гомсельмаш, шклозавод імя Сталіна, крычаўскі цэментны завод, бабруйскі лесакамбінат, магілеўская фабрыка штучнага шоўку, аршанскі ільнакамбінат, віцебская ільнапрадзільная фабрыка імя Кагановіча, Белдрэс, менскі завод ланцугоў «Галя» і сотні іншых. Частка гэтых прадпрыемстваў мае ўсесаюзнае значэнне, бо забяспечвае сваёй прадукцыяй не толькі патрэбы Беларусі, але і іншых рэспублік Совецкага Саюза.

Рад беларускіх заводаў асвоіў вытворчасць складанейшых станкоў, якія раней імпартаваліся. Зараз многія з іх экспартуюцца ў Турцыю, Іран і іншыя краіны.

Валавая прадукцыя адной толькі буйнай прамысловасці БССР у 15,9 раза перавышае ўсю дарэволюцыйную прадукцыю, а разам з мясцовай і саматужнай узрасла ў 22 разы.

Паасобныя прадпрыемствы выпускаюць зараз больш прадукцыі, чым уся дарэволюцыйная прамысловасць, якая была на тэрыторыі сучаснай БССР. Магілеўская фабрыка штучнага шоўку дасць сёлета больш чым на 90 млн. рублёў прадукцыі. Удзельная вага прамысловай прадукцыі ў народнай гаспадарцы БССР складае 73 проц.

У соцыялістычнай прамысловасці і на транспарце заняты сотні тысяч рабочых, у асноўнай масе—беларусы.

Буйная соцыялістычная сельская гаспадарка за дзве сталінскія пяцігодкі атрымала магутную тэхнічную базу. 680 тысяч або 87,1 проц. агульнага ліку сялянскіх гаспадарак аб'яднаны ў 9642 калгасы, якія займаюць 95 проц. усёй пасеўнай плошчы калгасна-сялянскага сектара БССР. Замест драўлянай сахі і знясіленага каня на палях соцыялістычнай Беларусі працуюць каля 10 000 трактароў, больш 500 камбайнаў, 1900 24-радных дыскавых трактарных сеялак, некалькі тысяч конных сеялак, больш 1300 складаных ільнацерабільных машын, больш 2000 складаных малатарань і некалькі тысяч іншых складаных і поўскладаных сельскагаспадарчых машын. Многія калгасы маюць уласныя грузавыя аўтамабілі, колькасць якіх з кожным днём узрастае.

Сучасная передавая тэхніка ва многа раз палегчыла працу калгаснага сялянства, узняла яе прадукцыйнасць, павысіла ўраджайнасць калгасных і соўгасных палёў, а разам з тым і матар'яльны добрабыт калгаснікаў.

Беларуская зямля, стаўшы калгаснай, дае высокія ўраджаі. Калгасны ўраджай са старым не параўнаць. Раней нават серадняцкая гаспадарка мела свой хлеб толькі да каляд. Зараз калгаснае сялянства забяспечана хлебам не толькі на свае патрэбы. Значную колькасць хлеба яно здае дзяржаве.

Барацьба за сталінскі лозунг «7—8 мільярдаў пудоў хлеба ў год» выклікае небывалую актыўнасць калгасных мас. Калгаснае сялянства БССР атрымала сёлета добры ўраджай, а паасобныя калгасы і брыгады знялі са сваіх палёў рэкордны ўраджай, аб якім і марыць не магло аднаасобнае сялянства.

Калгас «Чырвоны бераг», Аршанскага раёна, з 44 га азімага жыта атрымаў ураджаю па 20 цнт. з га, азімай пшаніцы—22,69 цнт., ячменю—22 цнт., аўса—18 цнт. Стаханаўскія ўчасткі далі азімай пшаніцы 35 цнт. з га, ячменю—36 цнт., бульбы 220 цнт., а часам па 250—300 цнт. з га. Падобных рэкордаў дабіліся сотні калгасаў.

* * *

Дзяржаўны і мясцовы бюджэт БССР на працягу толькі двух сталінскіх пяцігодак павялічыўся больш чым у 3 разы: з 313 млн. рублёў у 1932 г. да 1 мільярда 58 мільёнаў рублёў у 1937 г.

Гэтыя лічбы гавораць аб тым, што ў БССР адбываецца безупынны творчы ўздым як у галіне прамысловасці і сельскай гаспадаркі, так і ў культурным будаўніцтве.

Царская ўлада трымала беларускі народ у цемры, большасць насельніцтва была непісьменнай. І толькі перамога Вялікай соцыялістычнай рэволюцыі, толькі совецкая ўлада адкрыла працоўным масам шырокую дарогу да ліквідацыі культурнай адсталасці. У нашай краіне з кожным годам растуць асігнаванні на народную асвету. За апошнія 6 год выдаткі на асвету павялічыліся ў 4 разы: са 119 млн. рублёў да 483 млн. рублёў. За апошні год яны выраслі ў 37 раз супроць 1925—26 гг.

У дарэволюцыйнай Беларусі не было ні адной вышэйшай навучальнай установы, а зараз іх 22. У пачатковых, няпоўных сярэдніх і сярэдніх школах у гэтым годзе навучаецца 980 тысяч дзяцей—амаль адна пятая ўсяго насельніцтва БССР. У вышэйшай школе навучаецца 15.265, у тэхнікумах 27.812, рабфаках 6.629 чалавек. З нетраў беларускага народу вырасла новая совецкая інтэлігенцыя: інжынеры, урачы, аграномы, навуковыя работнікі і іншыя спецыялісты, да канца адданыя сваёй соцыялістычнай радзіме.

З кожным годам растуць выдаткі на ахову здароўя. Асігнаванні на ахову здароўя па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэту ўзраслі з 20,7 млн. руб. у 1932 г. да 190 млн. у 1937 г. Зараз у Совецкай Беларусі няма такога кутка, дзе-б насельніцтву не аказвалася медыцынская дапамога. На тэрыторыі сучаснай Совецкай Беларусі ў 1914 годзе было 3.800 больнічных коек, а зараз—3.826 устаноў: больніцы, радзільныя дамы, амбулаторыі, урачэбныя і фельчарскія пункты, дзіцячыя яслі.

Няма больш адсталай і галоднай, убогай і цёмнай Беларусі. Ёсць квітнеючая культурная соцыялістычная краіна—ордэнаносная БССР.

Дваццатую гадавіну Кастрычніка беларускі народ сустракае пад сцягам Леніна—Сталіна ў брацкім саюзе з усімі народамі вялікага Совецкага Саюза. Пад гэтым-жа сцягам беларускі народ пойдзе ўперад—да комунізма.

* * *

Совецкі Саюз—краіна заможнага жыцця. Няспынныя клопаты партыі, совецкага ўрада і асабіста таварыша Сталіна забяспечылі велізарны ўздым матар'яльнага добрабыту працоўных. З года ў год расце зарплата рабочых і служачых, павялічваецца вага калгаснага працадня.

Сярэдняя гадавая зарплата рабочых і служачых па Совецкаму Саюзу дасягнула сёлета 2.776 руб. супроць 450 р. у 1924-25 г. Павелічэнне зарплаты і зніжэнне цэн на промтавары дало працоўным масам дадаткова новыя мільярды рублёў, павялічыла пакупную здольнасць насельніцтва. Таваразварот совецкага гандлю з 47,8 мільярда рублёў у 1932 г. узняўся да 122,5 мільярда руб. у 1936 г.

Партыя большэвікоў і совецкі ўрад праводзяць палітыку безупыннага павышэння заработнай платы і адначасовага зніжэння цэн на ўсе тавары і прадукты. У капіталістычных краінах вядзецца шалёнае наступленне на жыццёвы ўзровень працоўных мас, зніжаецца заработная плата, павышаюцца цэны на прадметы шырокага спажывання.

Беспрацоўе—гэты біч пролетарыята капіталістычных краін—у нас назаўсёды ліквідавана. У нашай краіне самы кароткі ў свеце рабочы дзень. Сталінская Канстытуцыя гарантуе працоўным «права на атрыманне гарантаванай работы з аплатай іх працы ў адпаведнасці з яе колькасцю і якасцю».

У соцыялістычнай краіне совецкаму народу забяспечана радаснае, заможнае, культурнае жыццё. Няма на свеце другой такой краіны, дзе-б урад клапаціўся аб матар'яльным добрабыце працоўных так, як клапоціцца совецкі ўрад, кіруемы партыяй Леніна—Сталіна.

За гады сталінскіх пяцігодак з народных гушчаў партыя выхавала тысячы і мільёны таленавітых людзей, герояў соцыялістычнай радзімы. У нас выраслі такія героі, аб якіх з захапленнем гаворыць не толькі совецкі народ, але і народы ўсяго свету. На вуснах усяго свету імёны Чкалава, Байдукова, Белякова—Герояў Совецкага Саюза, якія ўпершыню ў гісторыі зрабілі беспасадачны пералёт па маршруту Масква—Паўночны полюс—Амерыка. Імёны Громава, Юмашэва, Даніліна слаўны беспасадачным палётам з Масквы праз Паўночны полюс у Сан-Джасінто (Каліфорнія). Яны пабілі два сусветныя рэкорды па дальнасці беспасадачнага палёту па прамой і ламанай лініі. Група совецкіх герояў на чале з О. Ю. Шмідтам выдатна выканала сталінскае заданне, арганізаваўшы экспедыцыю на Паўночны полюс і стварыўшы там палярную станцыю. У цяжкіх умовах Арктыкі совецкія палярнікі з Папаніным на чале вядуць вялікую навуковую работу на

карысць соцыялістычнай радзімы і ўсяго чалавецтва. Совецкія герої-лётчыкі даказалі ўсяму свету магутнасць авіяцыйнай тэхнікі, створанай нашым народам пад кіраўніцтвам партыі і таварыша Сталіна. Яны паказалі ўсяму свету, што толькі совецкая ўлада, толькі комуністычная партыя могуць забяспечыць умовы для ўсебаковага развіцця асабістай ініцыятывы і здольнасці.

Слава нашых лётчыкаў, камбайнераў, стаханаўцаў і спецыялістаў ўсіх галін народнай гаспадаркі вяліка таму, што здольнасці свае, гераічныя свае ўчынкі яны звязалі непарыўна з усім совецкім народам і свядома аддаюць іх на карысць соцыялістычнай радзіме.

* * *

У капіталістычных краінах з кожным годам узмацняецца эксплаатацыя. Удасканаленні тэхнікі выкарыстоўваюцца на выцісканне апошніх сокаў з працоўных мас. Шалёная гонка ўзбраенняў, падрыхтоўка фашызмам новай сусветнай вайны яшчэ больш узмацніла эксплаатацыю. Зніжаецца зарплата, растуць цэны на прадукты і тавары шырокага спажывання. Агромная армія беспрацоўных асуджана на голад і жабрацтва.

Ва Францыі—гэтай найбольш «дэмакратычнай» з капіталістычных краін,—паводле афіцыяльных даных буржуазнага штогодніка «Ля Франс экономік», заработная плата рабочых і служачых за пяць гадоў (1930—1935) скарацілася прыблізна на 30 процантаў або на 105 мільярдаў марак, г. зн. буржуазія і капіталісты адабралі ў працоўных гэтыя грошы.

Яшчэ ў горшых умовах знаходзяцца працоўныя масы ў фашысцкай Германіі. На іх плечы перакладзен увесь цяжар выдаткаў на шалёную падрыхтоўку фашызма да вайны і інтэрвенцыі ў Іспаніі. За гады фашысцкага рэжыму зарплата рабочых зніжана больш чым на адну трэць. Калі-ж улічыць розныя адлічэнні і ўзносы (грамадзянскі падатак, царкоўны падатак, у бальнічную касу, на страхаванне ад інваліднасці і беспрацоўя, на патрэбы фашысцкіх арганізацый і інш.), якія складаюць разам не менш 20 проц., то агульнае зніжэнне зарплаты рабочых складае каля 50 проц. Акрамя таго, фашыстамі ўведзена сістэма штрафаў. Рабочы штрафуецца грашмі за брак не па сваёй віне, а з-за дрэннай якасці розных сурагатаў, якія з-за адсутнасці сыравіны шырока прымяняюць фашысты ў вытворчасці. Штрафы яшчэ больш зніжаюць і без таго мізэрную зарплату.

Як прызнаецца Гебельс—адзін з фашысцкіх галаварэзаў,—сёлета ў Германіі 10 мільёнаў 700 тысяч чалавек пазбаўлены магчымасці здабываць для сябе і сям'і неабходныя сродкі існавання. Каля 11 мільёнаў працоўных асуджаны фашызмам на галодную смерць! Кампаніі па збору сродкаў на «зімовую дапамогу»—толькі міф пусты. Сабраныя сродкі застаюцца ў кішэнях фашысцкіх заправіл або ў лепшым выпадку ідуць на падрыхтоўку новай сусветнай вайны, у першую

чаргу супроць Совецкага Саюза, і пакрыццё выдаткаў на інтэрвенцыю ў Іспаніі.

Не маючы ніякага выхаду з галечы і голаду, людзі трэцяй імперыі канчаюць жыццё самагубствам. У Бадэсгольме пакончылі самагубствам муж і жонка, забіўшы раней свайго трохгадовае дзіця. У Гаунсгейме маці патапіла ў рацэ сямігадовую дачку і шасцігадовага сына, бо не было чым карміць. Самагубствы на глебе голаду і галечы растуць з кожным днём. Фашысцкая цэнзура прымае ўсе меры, каб пра гэта ніхто не дазнаўся. Аднак сумныя факты становяцца вядомымі.

У трэцяй імперыі побач з голадам і галечай, якімі ўзнагародзіў фашызм працоўныя масы, пануе нічым не прыкрыты тэрор. Фашысты ператварылі Германію ў канцэнтрацыйны лагер. Усе турмы перапоўнены людзьмі, якія асмеліліся выказаць нездаволенасць фашысцкім рэжымам. Тысячы лепшых сыноў нямецкага народу расстраляны і павешаны фашысцкімі варварамі. Трэцяя імперыя стала турмой для народу.

Польскія фашысты, следуючы за гітлераўскай Германіяй, давялі працоўныя масы горада і вёскі да поўнага жабрацтва.

Вясковая бедната і серадняцкае сялянства зруйнаваны рознымі падаткамі ды паборамі. Аб гэтым ужо не можа маўчаць нават польскі буржуазны друк.

У журнале «Социяльна медыцына» змешчана такое пісьмо настаўніка з аколіц Вільні: «На нас, настаўніках, ляжыць абавязак паведаміць наш крык збалелай душы: са 197 школьнікаў нашай школы 85 проц. не маюць кавалачка хлеба».

Малазямельны селянін з Жошаўскага павета (Львоўскага ваяводства) у пісьме, змешчаным у другім томе «Запісак сялян», выданым Інстытутам социяльнай эканомікі ў Варшаве, гаворыць: «Мы на некалькі пакаленняў адышлі назад да дзікай пары... Цёмна ў хаце, цёмна і на душы селяніна, бо няма адкуль чакаць яму дапамогі і ратунку».

І такіх пісем, такіх прыкладаў можна было-б прывесці сотні і тысячы. Жахліва доля працоўных у фашысцкай Польшчы.

Пра лёс працоўных у фашысцкай Італіі ярка гаворыць пісьмо, змешчанае ў антыфашысцкай газеце «Вочэ дэльі італьяні», якая выходзіць ў Парыжы. Пісьмо атрымана з Італіі на адрас брата, які знаходзіцца ў эміграцыі.

«Дарагі брат,—піша рабочы з правінцыі Падуа,—нас праследуе няшчасце, і галеча не дае нам перадыхнуць. Вы не можаце сабе ўявіць, як цяжка наша жыццё. Не гледзячы на летні сезон, мы ядзім адну толькі гародніну, смак мяса зусім забылі. Прадукты надзвычай дарагі, заработак нікчэмны, нясталы. Калі-б вы ўбачылі нашу страшэнную галечу, вы прышлі-б у роспач».

Не лепш жывуць працоўныя масы ў іншых капіталістычных краінах. Сотні мільёнаў працоўнага люду галадаюць і асуджаны на па-

ступовае выміранне. А ў гэты час кучка капіталістычных фашысцкіх заправіл набівае свае кішэні мільярднымі прыбыткамі, знішчае прадукты, каб яшчэ вышэй ускруціць цэны, яшчэ больш здабыць сабе спажытку.

СССР—адзіная краіна на свеце, дзе добрабыт працоўных мас няўхільна расце, дзе ліквідавана беспрацоўе, дзе гаспадаром свайго лёсу з'яўляецца сам народ. На Совецкі Саюз—радзіму соцыялізма—з верай і надзеяй глядзяць працоўныя і прыгнечаныя масы ўсяго капіталістычнага свету. Яны ўсё больш і больш пераконваюцца ў тым, што толькі соцыялістычная рэволюцыя, толькі дыктатура пролетарыята здольны забяспечыць працоўным масам радаснае, культурнае і заможнае жыццё.

Само існаванне Совецкага Саюза і яго поспехі ў эканамічным і культурным будаўніцтве выклікаюць шаленства ў другім лагеры—у лагеры капіталістычных і фашысцкіх драпежнікаў. У сваёй звярынай нянавісці да СССР фашысцкія заправілы скалачваюць блок для ваеннага нападу на яго. Але, баючыся магутнасці нашай краіны, непераможнай сілы Чырвонай Арміі, яны пакуль што не адважваюцца напасці на нас адкрыта і спатайка рыхтуюць удар нашай эканоміцы. Для гэтай мэты нямецка-польскія фашысты і японскія імперыялісты засылаюць у нашы тылы сваіх агентаў, вярбуюць іх сярод асколкаў разгромленых партыяй трацкісцка-бухарынскіх бандытаў і буржуазных нацыяналістаў. На гэтых здраднікаў соцыялістычнай радзімы нямецка-польскія фашысты і японскія імперыялісты ўскладаюць вялікія надзеі. Яны спадзяюцца, што шляхам шкодніцтва, дыверсіі, забойства, шпіянажу ім удасца аслабіць абараназдольнасць Совецкага Саюза і надрыхтаваць зручны момант для ваеннага нападу на яго. Але фашысцкія імперыялістычныя драпежнікі пралічыліся. Партыя і Совецкі ўрад пры дапамозе слаўных чэкістаў і ўсяго совецкага народу выкрылі зграю фашысцкіх агентаў і наймітаў. Дыктатура рабочага класа раздавіла іх.

Аднак совецкі народ заўсёды павінен памятаць указанне таварыша Сталіна аб капіталістычным акружэнні, быць заўсёды пільным, зорка сачыць за прошукамі класавых ворагаў, своечасова выкрываць і душыць іх як гадзін. Наш абавязак яшчэ больш мацаваць абараназдольнасць сваёй соцыялістычнай радзімы, маючы на ўвазе, што пагроза вайны не зменшылася.

Фашысцкія мракабесы імкнуцца патапіць у крыві працоўных мас увесь свет. Пад прыкрыццём «барацьбы з комунізмам» яны арганізавалі мяцеж у Іспаніі, каб прыбраць да сваіх рук яе землі і багацці. Сілаю зброі нямецкія і італьянскія фашысты хочуць задушыць іспанскі народ, які гераічна змагаецца за сваю самастойнасць, за дэмакратычную Іспанію.

Пры прамым падтрыманні фашысцкай Германіі і Італіі напалі на Кітай японскія імперыялісты. Яны меркавалі, што з кітайскім народам

расправіцца лётка, але пралічыліся. Кітайскі народ дае мужны адпор інтэрвентам, гераічна адстойвае сваю самастойнасць.

Разгром мірных гарадоў, забойства дзесяткаў тысяч нічым непавінных мірных жыхароў, жанчын і дзяцей, выклікаюць абурэнне ў народных масах усяго свету. Расце і мацнее грозная антыфашысцкая сіла—адзіны народны фронт.

Працоўныя масы ўсё мацней згуртоўваюцца вакол брацкіх комуністычных партый. «Ідэя штурму спее ў свядомасці мас»,—гаворыць таварыш Сталін. Сілы рэволюцыі растуць і мацнеюць ва ўсім свеце. Іх натхняюць перамогі СССР—радзімы соцыялізма, якая гранітным уцёсам высіцца сярод бушуючага капіталістычнага мора і цвёрда стаіць на варце міру.

Праводзячы паслядоўную палітыку міру, СССР не баіцца пагроз. Моцная бязмежнай любоўю ўсяго совецкага народу, краіна Советаў дасць сакрушальны адпор усякаму, хто пасмее парушыць яе граніцы, яе мірную творчую працу.

> «Наша краіна,—гаворыць таварыш Варашылаў,—краіна міру. Наша Армія—абаронца і аплот міру не толькі ў нашай краіне, не толькі для нашай краіны, але яна гатова зрабіць усё для таго, каб мір быў забяспечан усяму свету... Але калі хто паспрабуе на нашу краіну напасці і прымусіць нашых рабочых і работніц, калгаснікаў і калгасніц, нашу інтэлігенцыю, усю нашу краіну замест мірнай работы па пабудове вялікага, цудоўнага будынку соцыялізма ўзяцца за зброю... мы не толькі не пусцім ворага ў межы нашай радзімы, але будзем яго біць на той тэрыторыі, адкуль ён прышоў».

* * *

Зараз уся наша краіна рыхтуецца да аднаго з найбольш адказных момантаў у жыцці совецкага народу—да выбараў Вярхоўнага Совета СССР па новай Сталінскай Канстытуцыі і новаму Выбарчаму закону. З кожным днём усё шырэй і шырэй разгортваецца выбарчая кампанія. Па ўсіх выбарчых акругах з вялікім уздымам, на высокім палітычным узроўні праходзіць абмеркаванне кандыдатаў у дэпутаты Совета Саюза і Совета Нацыянальнасцей. На сходах рабочых, калгаснага сялянства, совецкіх служачых, навуковых работнікаў, чырвонаармейцаў і т. д. у кандыдаты вызначаюцца лепшыя людзі нашай вялікай соцыялістычнай радзімы. На ўсіх сходах працоўныя масы першым кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Совета СССР вылучаюць свайго любімага правадыра і настаўніка—таварыша Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў—таварышоў Молатава, Кагановіча, Варашылава, Калініна, Ежова і іншых. Совецкі народ бязмежна любіць сваіх правадыроў і кіраўнікоў, партыю Леніна—Сталіна, якія прывялі нашу краіну да перамогі соцыялізма. Беларускі народ аднадушна, разам

з усімі народамі нашай неабсяжнай краіны, жадае абраць у Вярхоўныя органы краіны вялікага Сталіна і яго бліжэйшых саратнікаў.

Совецкая краіна—адзіная ў свеце дзяржава, дзе няма дзялення народаў на пануючых і прыгнечаных. Народы краіны соцыялізма, незалежна ад нацыянальнасці і расы, карыстаюцца аднолькавымі правамі ў дзяржаўным і гаспадарчым будаўніцтве. Ажыццяўленне ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі прывяло да росквіту культуры ўсіх народаў СССР, культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу. Совецкая ўлада, ствараючы шматнацыянальную дзяржаву, паклала ў аснову свабоднае, брацкае, соцыялістычнае супрацоўніцтва народаў. Усе народы на аднолькавых правах будуць удзельнічаць у выбарах вярхоўных органаў Саюза Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік. 12 снежня народы Совецкага Саюза пойдуць да выбарчых урнаў, каб аддаць свае галасы за лепшых людзей соцыялістычнай радзімы.

Перад усімі партыйнымі арганізацыямі і кожным комуністам стаіць задача—быць на чале мас, узначальваць узросшую палітычную актыўнасць мас, добра растлумачыць шырокім масам выбаршчыкаў новы Выбарчы закон і забяспечыць такую падрыхтоўку і правядзеянне выбараў, каб ні адзін вораг народу не здолеў пралезці ў вярхоўныя органы краіны.

Роля партыі ў цэлым і кожнай паасобнай партыйнай арганізацыі, як палітычнага кіраўніка мас, як кіруючага ядра ўсіх арганізацый працоўных, асабліва ўзрастае зараз у сувязі з нябачаным ростам палітычнай актыўнасці мас. Ад работы партыйнай арганізацыі па падрыхтоўцы да выбараў і кіраўніцтва масамі будуць залежаць і вынікі выбараў.

Падрыхтоўка да выбараў павінна быць шчыльна звязана з ажыўленнем усёй партыйна-масавай работы, каб шырэй ахапіць палітычным уплывам беспартыйныя масы і накіраваць узросшую іх актыўнасць на далейшае ўмацаванне дыктатуры рабочага класа.

Узросшую палітычную актыўнасць у радах партыі і сярод беспартыйных мас неабходна выкарыстаць, каб узняць на новую ступень усе галіны партыйнай і грамадскай работы, яшчэ больш умацаваць сувязь комуністаў з беспартыйнымі, яшчэ шчыльней згуртаваць шырокія масы працоўных вакол партыі Леніна—Сталіна, вакол правадыра партыі таварыша Сталіна.

Партыя большэвікоў пад кіраўніцтвам Сталіна—геніяльнага правадыра ўсіх працоўных і прыгнечаных—за 20 год дыктатуры рабочага класаператварыла Совецкі Саюз у непрыступную крэпасць соцыялізма. Пад мудрым кіраўніцтвам таварыша Сталіна—вернага паслядоўніка ленінскага вучэння—партыя аб'яднала і ўмацавала брацкі Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, забяспечыла небывалы росквіт яго эканомікі і культуры, шчаслівае і радаснае жыццё ўсіх яго народаў. Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі і таварыша Сталіна совецкі

народ атрымаў самую дэмакратычную ў свеце Канстытуцыю. У вярхоўныя органы СССР савецкі народ пашле лепшых сваіх прадстаўнікоў і першым дэпутатам выбера свайго правадыра, настаўніка і бацьку—таварыша **Сталіна**.

Пад сцягам Леніна—Сталіна партыя большэвікоў прывяла нашу краіну да перамогі соцыялізма, пад гэтым-жа сцягам і кіраўніцтвам Сталіна яна павядзе савецкі народ к комунізму.

---

А. Свам

# 20 год барацьбы за мір

## I

Першая дзяржава пролетарскай дыктатуры нарадзілася пад грукат баёў самай страшэннай, найбольш кровепралітнай з войн, калі-небудзь пережытых чалавецтвам. Пытанне аб міры з перашага-ж дня існавання совецкай улады стала адным з асноўных пытанняў знешняй палітыкі совецкага ўрада. Дваццаць год прашло з таго часу, але барацьба за мір і зараз з'яўляецца асноўнай задачай совецкай знешняй палітыкі.

На XVII з'ездзе партыі таварыш Сталін коратка і з гранічнай чоткасцю фармуляваў гэту асноўную задачу.

> «Наша знешняя палітыка ясна,—сказаў таварыш Сталін.— Яна ёсць палітыка захавання міру і ўзмацнення гандлёвых адносін з усімі краінамі. СССР не думае пагражаць каму-б там ні было, і тым больш напасці на каго-б там ні было. Мы стаім за мір і адстойваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны».

За 20 год свайго існавання СССР даў незлічоную колькасць прыкладаў рашучай і паслядоўнай барацьбы за справу міру. Мяняліся ўмовы, у якіх гэта барацьба адбывалася, мяняліся яе формы і метады, але барацьба за мір паміж народамі заставалася асновай знешняй палітыкі совецкага ўрада.

Ужо на другі дзень пасля вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі, на другім Усерасійскім з'ездзе Советаў працоўныя нашай краіны абвясцілі сваю волю к міру.

> «Рабоча-сялянскі ўрад,—гаварыў дэкрэт аб міры, прыняты з'ездам Советаў,—які створан рэволюцыяй 6—7 лістапада (24—25 кастрычніка) і апіраецца на Советы рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, прапануе ўсім ваюючым народам і іх урадам пачаць безадкладна перагаворы аб справядлівым дэмакратычным міры».

Адначасова з'езд Советаў аб'явіў «безумоўна і безадкладна адмененым» увесь змест заключаных царскім і часовым урадамі тайных дагавораў, «паколькі ён накіраван... к дастаўленню выгад і прывілеяў рускім памешчыкам і капіталістам». Ажыццяўляючы волю з'езда, совецкі ўрад прапанаваў усім ваюючым краінам безадкладна заключыць перамір'е на ўсіх фронтах і прыступіць

да перагавораў аб міры. Гэты мір быў абвешчан народамі нашай радзімы і нашым урадам, як мір без анексій, г. зн. без захопу чужых зямель, без гвалтоўнага далучэння чужых народнасцей і без кантрыбуцый, г. зн. без спагнання ваеннай дані.

Даволі прыпомніць абстаноўку, у якой разнёсся па ўсяму свету гэты заклік да справядлівага дэмакратычнага міру, каб уявіць сабе, які ўплыў гэта прапанова аказала на розумы шматмільённых мас працоўных усіх краін і на далейшы ход падзей. Лозунг «мір без анексій і кантрыбуцый» стаў папулярнейшым лозунгам рабочых і сялян усіх краін. Перад масамі працоўных, апранутых у салдацкія шынелі і кінутых міжнародным імперыялізмам у акопы на ўзаемнае знішчэнне, упершыню ва ўсю шырыню адкрыліся шляхі выхаду з сусветнай бойні. Дэкрэт аб міры правільна зразумелі працоўныя масы ўсіх краін, як сведчанне поўнага разрыву першай пралетарскай дзяржавы з палітыкай імперыялістычнага гвалту, былой палітыкай царскага рэжыму. Прынятая савецкім урадам «Дэкларацыя праў народаў Расіі» (15 лістапада 1917 г.), якая ўстанавіла «права народаў Расіі на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы», паказала прыклад рэвалюцыйнага вырашэння нацыянальнага пытання. Важнейшую ролю адыграла падпісаная Леніным і Сталіным «Адозва Савета Народных Камісараў РСФСР да ўсіх працоўных мусульман Расіі і Ўсходу» (17 снежня 1917 года). Гэтай адозвай савецкі ўрад абвясціў адмаўленне ад тайных дагавораў аб раздзеле Турцыі і Персіі і аб захопе Канстантынопаля.

Маладой савецкай рэспубліцы прышлося аднак заваёўваць сваё права на мір са зброяй у руках. Застрэльшчыкам барацьбы супроць Савецкай Расіі выступіў нямецкі імперыялізм, справы якога на заходнім фронце з кожным днём ішлі горш і горш. На заклік да справядлівага дэмакратычнага міру драпежны нямецкі імперыялізм адказаў арганізацыяй інтэрвенцыі на нашых заходніх граніцах, дапамогай фінляндскім белагвардзейцам і ўкраінскім сепаратыстам. У Брэст-Літоўску ён навязаў Савецкай рэспубліцы рабаўнічыя ўмовы міру. Здрадніцкае парушэнне Іудушкай Троцкім— гэтым мярзотным агентам гітлераўскага фашызма—указанняў Леніна і Сталіна аб падпісанні міру і супраціўленне так званых «левых комуністаў» (контррэвалюцыянеры Бухарын, Пятакоў, і інш.) аказала паслугу нямецкаму імперыялізму, дазволіўшы яму пагоршыць і без таго цяжкія ўмовы Брэст-Літоўскага дагавора. Пад кіраўніцтвам Леніна і Сталіна наша партыя правяла маладую Савецкую рэспубліку праз іспыты Брэсцкага міру. Рэвалюцыя ў Германіі і ануляванне Брэсцкага дагавора 11 лістапада 1918 г. бліскуча пацвердзілі правільнасць ленінска-сталінскай лініі ў гэтым пытынні.

Савецкай краіне прышлося абараняць сваё права на мір і незалежнае свабоднае існаванне таксама і ад імперыялістаў краін Антанты, адказаўшых на заклік да міру дапамогай белагвардзейскім генералам Калчаку, Дзенікіну, Врангелю і інш. і прамой інтэрвенцыяй супроць Савецкай рэспублікі. Працоўныя Савецкага Саюза і, у прыватнасці, працоўныя нашага Далёкага Ўсходу, асабліва запомнілі японскую інтэрвенцыю, якая цягнулася чатыры з паловай гады і пакрыла крывёй і руінамі наш багацейшы Далёка-Ўсходні край. Нарэшце, узнікшыя на руінах царскай Расіі, кайзераўскай Германіі і Аўстра-Венгерскай манархіі дробныя пагранічныя з Савецкай рэспублікай дзяр-

жавы спрабавалі ў сваю чаргу то пры дапамозе германскіх імперыялістаў, то пры дапамозе імперыялістаў краін Антанты ўрваць кавалкі совецкай зямлі. Усе гэтыя спробы былі біты. Асоба належыць адзначыць вайну з панскаю Польшчай, якая хацела захапіць землі украінскага і беларускага народаў і ператварыць гэтыя народы ў рабоў польскіх памешчыкаў і капіталістаў.

Перамогі кіруемай Леніным і Сталіным Чырвонай Арміі, выкаванай большэвіцкай партыяй і змагаўшайся з ворагамі Совецкай краіны пры поўным падтрыманні ўсіх працоўных нашай радзімы і перадавых рабочых усяго свету, вызвалілі Совецкую краіну ад нямецкіх акупантаў, ад белагвардзейскіх генералаў, ад японскіх інтэрвентаў, ад польскіх паноў. Совецкая ўлада сілаю зброі заваявала права народам нашай неабсяжнай радзімы на мір і на мірнае будаўніцтва. Яна вывела працоўных нашай краіны з сусветнай імперыялістычнай бойні і вызваліла іх назаўсёды ад улады капітала—першапрычыны ўсіх войн нашай эпохі.

## II

Яшчэ да выгнання з нашай зямлі апошняга белагвардзейца і інтэрвента ў 1920—1921 гг. пачаўся пералом у адносінах капіталістычнага свету з совецкімі рэспублікамі. 2 лютага 1920 г. быў заключан, пасля разгрому Юдзеніча, мірны дагавор з Эстоніяй. 12 ліпеня 1920 г. быў заключан дагавор з Літвой, 11 жніўня 1920 г.—з Латвіяй, 15 кастрычніка 1920 г.—з Фінляндыяй. Дагавор з Польшчай быў заключан 18 сакавіка 1921 г. Гэтыя дагаворы ўстанавілі мірныя адносіны Совецкай рэспублікі з мяжуючымі з ёю на захадзе капіталістычнымі краінамі. Усе гэтыя краіны або цалкам або ў большай частцы ўваходзілі раней у склад Расійскай імперыі. Таму ў пералічаных вышэй дагаворах Совецкі ўрад ажыццявіў на практыцы абвешчаны Леніным і Сталіным прынцып самавызначэння нацый, аж да аддзялення. Так, артыкул 2 дагавора з Эстоніяй гаварыў, напрыклад: «Выходзячы з абвешчанага РСФСР права ўсіх народаў на свабоднае самавызначэнне аж да поўнага аддзялення ад дзяржавы, у склад якой яны ўваходзяць, Расія прызнае безагаворачна незалежнасць і самастойнасць эстонскай дзяржавы».

У 1921 г. былі заключаны дагаворы з усходнімі суседзямі Совецкай Расіі, аформіўшыя адносіны паміж совецкай дзяржавай і гэтымі краінамі. 26 лютага быў заключан дагавор з Іранам, 28 лютага—з Афганістанам, 16 сакавіка—з Турцыяй, 5 лістапада—з Мангольскай народнай рэспублікай. Пазней быў заключан дагавор з Кітаем. Усе гэтыя дагаворы зафіксавалі прынцып адмаўлення Совецкай Расіі ад праў і прывілеяў імперыялістычнай царскай манархіі ў гэтых краінах і прынцып роўнаправнасці гэтых краін у міжнародных адносінах.

У адносінах РСФСР з капіталістычнымі краінамі, не мяжуючымі непасрэдна з совецкімі рэспублікамі, зрух таксама наступіў яшчэ да сканчэння грамадзянскай вайны ў Расіі. 16 студзеня 1920 г. была адменена аб'яўленая Антантай блакада Совецкай Расіі. 16 сакавіка 1921 г. было заключана часовае гандлёвае пагадненне з Англіяй і следам за ім—дагаворы з Германіяй (6 мая 1921 г.), з Італіяй (25 ліпеня 1921 г.), з Нарвегіяй (2 верасня 1921 г.) і з Аўстрыяй (7 снежня 1921 г.). Усе гэтыя дагаворы сведчылі аб тым, што краіны капіталістычнага акружэння к пачатку 1922 г., за выключэннем Японіі, ужо

разумелі немінучасць краху белагвардзейшчыны і дарэмнасць інтэрвенцыі. У 1922 г. капіталістычны свет зрабіў першую спробу дагаварыцца ў шырокім маштабе з совецкімі рэспублікамі. Совецкая Расія была запрошана на канферэнцыі ў Генуі і Гаазе. Дыпламатыя буржуазных краін прабавала навязаць совецкім рэспублікам «дапамогу» капіталістаў у справе «аднаўлення Расіі». Гэта «дапамога» мыслілася імі, як сродак звярнуць Расію на шлях капіталізма і такім чынам эканамічным шляхам ажыццявіць тое, чаго ім не ўдалося дабіцца сілай зброі. У адпаведнасці з гэтым, прадстаўнікі капіталістычных краін паставілі на канферэнцыі ў Генуі і ў Гаазе такія ўмовы «дапамогі», якія павінны былі на дзесяцігоддзі закабаліць народы нашай краіны (уплата царскіх даўгоў і т. п.). Гэтыя ўмовы былі з агідай адвергнуты. Большэвіцкая партыя і совецкі ўрад у барацьбе з Троцкім, Сакольнікавым і іншымі здраднікамі, цвёрда верачы ў творчыя сілы і здольнасці працоўных мас, апіраючыся на гэтыя масы і планава скарыстоўваючы агромныя рэсурсы краіны, справіліся з разрухай, выкліканай вайной і інтэрвенцыяй, уласнымі сіламі.

Перыяд грамадзянскай вайны і інтэрвенцыі супаў з перыядам важнейшых змен у міжнароднай абстаноўцы. У канцы 1918 г. завяршыўся ваенны разгром Германіі і яе саюзнікаў. 28 чэрвеня 1918 г. быў падпісан Версальскі дагавор і следам за ім рад іншых дагавораў, якія афармілі перадзел свету на аснове новых суадносін сіл. Гэтыя дагаворы ні ў якой ступені не адпавядалі прынцыпам дэмакратычнага і справядлівага міру. Яны падзялілі свет на два лагеры: пераможаных і пераможцаў, і выклікалі да жыцця новыя супярэчнасці паміж капіталістычнымі дзяржавамі. У гэтай абстаноўцы совецкія рэспублікі, ажыццявіўшыя выхад з вайны імперыялістычнай, перамогшыя ў грамадзянскай вайне і прыступіўшыя да мірнага будаўніцтва, скарысталі ўсе магчымасці для наладжвання мірных адносін з капіталістычным акружэннем. Не гледзячы на пэўны пералом у адносінах капіталістычнага свету да Совецкага Саюза, гэта задача была не з лёгкіх. Аб гэтым сведчаць такія факты, як забойства Вароўскага, ультыматум Керзона і т. д., якія былі арганізаваны найбольш агрэсіўнымі элементамі капіталістычнага акружэння для таго, каб сарваць мірныя адносіны з совецкімі рэспублікамі. Толькі пасля таго, як гэтыя правакацыі былі расстроены паслядоўнай мірнай палітыкай совецкага ўрада, пачалася новая паласа ў адносінах Совецкай Расіі з капіталістычнымі краінамі. У 1924 г. былі аднаўлены дыпламатычныя адносіны паміж СССР, з аднаго боку, і Англіяй, Францыяй, Італіяй і іншымі краінамі, з другога. У жыцці Совецкай рэспублікі і ў яе барацьбе за мір наступіў новы перыяд.

## III

У 1923—1924 гг. пачаўся новы перыяд у міжнародных адносінах, звязаны, з аднаго боку, з так званай часовай адноснай стабілізацыяй капіталізма, і, з другога боку, з бурным ростам гаспадарчага развіцця Совецкага Саюза, з нарастаннем яго палітычнай магутнасці. Характэрным для данага моманту,—гаварыў таварыш Сталін у дакладзе актыву Маскоўскай арганізацыі 9 мая 1925 г.,—з'яўляецца не толькі тое, што капіталізм і совецкі лад стабілізаваліся, але і тое што сілы гэтых двух лагераў дасягнулі некаторай часовай роўнавагі.

Ажыццяўляючы сваю палітыку захавання міру і ўзмацнення гандлёвых адносін з усімі краінамі, Совецкі Саюз заключыў у гэты перыяд рад палітычных, гаспадарчых, тэхнічных дагавораў і пагадненняў з краінамі, якія падтрымлівалі з ім нармальныя дыпламатычныя адносіны. У гэты перыяд пачаў разгортвацца гандаль Совецкага Саюза з краінамі капіталістычнага акружэння, пачалі завязвацца гаспадарчыя, культурныя, тэхнічныя і іншыя сувязі.

Асоба належыць адзначыць адносіны Совецкага Саюза з Германіяй, якая толькі што пачала апраўляцца ад ваенных узрушэнняў і пасляваеннага эканамічнага і палітычнага крызісу. Яшчэ ў красавіку 1922 г. быў заключан дагавор у Рапалло, які ўрэгуляваў у асноўным спрэчныя пытанні, што стаялі ў адносінах двух краін. Гэты дагавор у наступныя гады быў папоўнен і развіт палітычнымі, гаспадарчымі і тэхнічнымі пагадненнямі, якія ўстанавілі паміж СССР і Германіяй, у той час Веймарскай дэмакратычнай рэспублікай, нармальныя адносіны. Адносіны з Совецкім Саюзам прадстаўлялі для Германіі, ізаляванай і аслабленай вайной і пасляваенным крызісам, агромны палітычны і эканамічны інтарэс. Яны адначасова садзейнічалі і справе міру ў Еўропе. Аднак ужо ў той час нямецкія кіруючыя колы імкнуліся скарыстаць добрыя адносіны з СССР для таго, каб даражэй прадаць варожым СССР капіталістычным групоўкам супрацоўніцтва Германіі ў антысовецкіх выступленнях і правакацыях. Хістанні кіраўнікоў нямецкай знешняй палітыкі знайшлі найбольш яркае выражэнне ў канфлікце, звязаным з налётам на Берлінскае гандлёвае прадстаўніцтва СССР. У той ці іншай форме Германія ўключалася ва ўсе антысовецкія кампаніі, прабуючы выгаварыць для сябе ўступкі і льготы за «змену арыентацыі».

Падтрымліваючы нармальныя адносіны з краінамі капіталістычнага акружэння, Совецкі Саюз асаблівую ўвагу ўдзяліў у гэты перыяд сваёй барацьбы за мір пытанню аб раззбраенні і абмежаванні ўзбраенняў. Гэта пытанне глыбока хвалявала самыя шырокія масы працоўных усяго свету, якія патрабавалі ад сваіх урадаў выканання абяцанняў, даных у час вайны. Вядома, што кіраўнікі капіталістычнага свету дэмагагічна сыпалі абяцанкамі, што вайна 1914—1918 гг. будзе апошняй вайной. Пры заключэнні міру ім прышлося пайсці на ўключэнне ва ўмовы мірных дагавораў палажэнняў аб пастаноўцы на абмеркаванне пытання аб раззбраенні. Гэта абяцанне так і засталося, вядома, нявыкананым. Аднак, поўнасцю пазбегчы публічнага міжнароднага абмеркавання гэтага пытання капіталістычным краінам не ўдалося. Ім прышлося зрабіць выгляд, што яны шукаюць спосабаў вырашэння гэтага пытання і прывесці ў рух апарат створанай пасля вайны Лігі нацый.

Ужо на Генуэскай канферэнцыі ў красавіку 1922 г. совецкі ўрад, апіраючыся ў сваёй барацьбе за трывалы і доўгі мір на агульнае жаданне самых шырокіх мас працоўных прадухіліць магчымасць паўтарэння крывавай бойні 1914—1918 гг., выступіў з прапановай аб усеагульным скарачэнні ўзбраенняў, аб забароне карыстання атрутнымі газамі, аб забароне паветранай вайны і т. д. Гэта прапанова не сустрэла водгуку з боку капіталістычных дзяржаў. У тым-жа 1922 г. совецкі ўрад склікаў у Маскве канферэнцыю з удзелам прадстаўнікоў Эстоніі, Фінляндыі, Латвіі і Польшчы для абмеркавання пытання аб правядзенні прапарцыянальнага скарачэння ўзбраенняў. Гэта канферэнцыя таксама не дала рэзультатаў. Пазней совецкі ўрад прыняў

удзел у работах створанай Советам Лігі нацый камісіі па падрыхтоўцы канферэнцыі па раззбраенню. У гэтай камісіі совецкая дэлегацыя выступіла з праектам канвенцыі аб безадкладным усеагульным і поўным раззбраенні (15 лютага 1928 г.) і, пасля яго адхілення, ўнесла праект канвенцыі аб скарачэнні ўзбраенняў напалову для вялікіх краін і на $1/4$ для меншых. У 1929 г. быў адхілен і гэты праект.

Не маючы магчымасці адкрыта выступіць супроць раззбраення, буржуазныя ўдзельнікі камісіі прабавалі спачатку арганізаваць змову маўчання вакол совецкага плана раззбраення; калі гэта не ўдалося, яны сталі адводзіць яго пад рознымі зусім неістотнымі прадлогамі.

Совецкая дэлегацыя прыняла таксама ўдзел і ў работах канферэнцыі па раззбраенню, скліканай у 1932 г. Совецкі ўрад выступіў на гэтай канферэнцыі з радам канкрэтных прапаноў аб скарачэнні ўзбраенняў і з прапановай аб ператварэнні канферэнцыі ў пастаянны орган міру. Канферэнцыя, як вядома, была сарвана фашысцкай Германіяй, якая вышла з Лігі нацый у верасні 1933 г. Пазіцыя совецкага ўрада ў пытанні аб раззбраенні і ў пытанні аб скарачэнні ўзбраенняў наглядна паказала ўсяму працоўнаму чалавецтву, што Совецкі Саюз праводзіць паслядоўную і прынцыповую палітыку міру, з'яўляецца праціўнікам вайны і асноўнай сілай, якая стаіць на варце міру. Публічнае абмеркаванне з трыбуны спачатку камісіі, а потым канферэнцыі па раззбраенню гэтага пытання, якое закранае лёс соцень мільёнаў людзей, зрабіў Совецкі Саюз і яго мірную палітыку папулярнымі ў самых глухіх кутках зямнога шара.

Міралюб'е совецкай краіны замаўчаць не ўдалося. У 1928 г. совецкі ўрад падтрымаў амерыканскую ініцыятыву і далучыўся да вядомага пакта Келога аб адмаўленні ад вайны ў якасці сродку нацыянальнай палітыкі. Асобным пратаколам, падпісаным па ініцыятыве СССР радам мяжуючых з Совецкім Саюзам краін, совецкі ўрад увёў гэты пакт датэрмінова ў дзеянне ў сваіх адносінах з гэтымі краінамі.

Побач з удзелам у работах міжнародных арганізацый, пералічаных вышэй, Совецкі Саюз заключыў з радам краін так званыя дагаворы аб ненападзе, якія ўстанавілі абавязацельства прыбягаць у выпадках канфліктаў да мірнага вырашэння спрэчак, узнікаючых паміж СССР і гэтымі краінамі, і не прыбягаць да вайны для вырашэння гэтых спрэчак, а таксама не аказваць дапамогі і падтрымкі трэцім краінам, якія ў мэтах сваёй агрэсіўнай імперыялістычнай палітыкі нападуць на адну з падпісаўшых гэтыя дагаворы краін. Першы такі дагавор быў заключан з Турцыяй 17 снежня 1925 г. Потым дагаворы аб ненападзе былі заключаны з Афганістанам, Германіяй, Іранам, Італіяй, Латвіяй, Літвой, Польшчай, Фінляндыяй, Францыяй і Эстоніяй. Вызначаючы значэнне гэтых дагавораў, тав. Літвінаў у прамове на канферэнцыі па раззбраенню 11 лютага 1932 г. указаў, што гэтыя пакты з'яўляюцца свайго роду выдатным сродкам «для выяўлення мірных або процілеглых настрояў іншых дзяржаў»... Сур'ёзныя сумненні ў іх мірных настроях выклікаюць тыя дзяржавы, якія прапановы аб заключэнні пакта аб ненападзе пад тым ці іншым прадлогам або без усякага тлумачэння зусім адхіляюць». Ён адзначыў таксама, што гэтыя пакты ўзмацняюць віну нападаючага ў выпадку парушэння міру. У сувязі з гэтым, трэба адзначыць пазіцыю Японіі, якая з'явілася краінай, адвергнуўшай прапанову аб заключэнні пакта аб ненападзе з Совецкім Саюзам, роля якой у правакацыі канфлікта на КУЧ прадстаўляецца цяпер бяспрэчнай.

IV

У 1929 г. капіталістычны свет быў ахоплен беспрэцэдэнтным эканамічным крызісам, які паразіў усе капіталістычныя краіны і ўсе галіны капіталістычнай гаспадаркі. Гэты крызіс цягнуўся рад гадоў і толькі ў 1935—1936 тг. некаторыя краіны дасягнулі ўзроўню вытворчасці 1929 г. І цяпер яшчэ, у 1937 годзе, вынікі крызісу даюць сябе жорстка адчуваць, і ўжо зноў раздаюцца трывожныя сігналы аб новым скачку ўніз, які чакае капіталістычную гаспадарку ў бліжэйшы час.

«Важнейшым рэзультатам сусветнага эканамічнага крызісу з'яўляецца,—сказаў таварыш Сталін у 1930 г. у дакладзе XVI з'езду ВКП(б),—абнажэнне і абвастрэнне супярэчнасцей, уласцівых сусветнаму капіталізму».

Абвастрыліся «супярэчнасці ўнутрыкапіталістычнага парадку»: супярэчнасці паміж важнейшымі капіталістычнымі краінамі; паміж краінамі пераможцамі і краінамі пераможанымі, паміж імперыялістычнымі краінамі і каланіяльнымі залежнымі краінамі, паміж буржуазіяй і пролетарыятам капіталістычных краін.

Абвастрэнне гэтых супярэчнасцей прывяло да ўзмацнення ваеннай небяспекі. Гэта небяспека асабліва ярка выявілася ў двух пунктах зямнога шара. У сакавіку 1936 г. таварыш Сталін у гутарцы з Рой Говардам адзначыў наяўнасць двух ачагоў ваеннай небяспекі: японскага—на Ўсходзе і германскага—на Захадзе. Японскі імперыялізм ужо ў 1931 г. пачаў першы акт узброенай барацьбы за новы перадзел свету. Уноч на 19 верасня японскія войскі акупавалі Мукдэн і прыступілі да захопу Манчжурыі. Гэты захоп з'яўляўся толькі першым крокам на шляху ажыццяўлення шырокіх рабаўнічых планаў японскага імперыялізма, які марыць аб зняволенні ўсяго Кітая і аб барацьбе за панаванне над светам.

З прыходам да ўлады ў 1933 г. у Германіі агрэсіўнага, чалавеканенавісніцкага фашызма стварыўся другі ачаг ваеннай небяспекі— у цэнтры Еўропы. Германскі фашызм, паставіўшы сваёй задачай зняволенне іншых народаў, марачы аб разгроме Францыі, аб захопе Украіны, аб багатых калоніях Англіі,—ліквідаваў Версальскі дагавор для таго, каб мець свабодныя рукі для барацьбы за гэтыя злачынныя мэты. У 1933 г. Германія вышла з Лігі нацый і сарвала канферэнцыю па раззбраенню. У 1934 г. пачалася адкрытая барацьба гітлераўскай Германіі за стварэнне вялікай і тэхнічна аснашчонай арміі агрэсіі. У 1936 г. Германія аднабакова парушае дагавор аб дэмілітарызацыі Рэйнскай зоны і ірве Лакарнскі дагавор. Следам за тым Гітлер павялічвае ўдвая колькасць узброеных сіл фашысцкай Германіі, ставіць пытанне аб звароце калоній і прыступае да ажыццяўлення плана шырокай фашысцкай агрэсіі, арганізуючы ў першую чаргу фашысцкі мяцеж і інтэрвенцыю ў Іспаніі. У іспанскай авантуры фашысцкая Германія дзейнічае поплеч з больш слабым, але не менш драпежніцкім і агрэсіўным італьянскім фашызмам. Апошні ў 1935—1936 гг. таксама ўступіў у адкрытую ўзброеную барацьбу за зняволенне чужых краін і народаў, захапіўшы Абісінію, пачаўшы інтэрвенцыю ў Іспаніі. Улетку 1937 г. Японія робіць новы напад на Кітай, ставячы на гэты раз задачу захопу Паўночнага Кітая і падначалення цэнтральнага кітайскага ўрада. Фашысцкія агрэсары і японскія

імперыялісты знайшлі агульную мову. Славутая «вось Берлін—Рым» (1936 г.) і япона-нямецкі дагавор «супроць Комінтэрна» (1936 г.) зафіксавалі палітычнае супрацоўніцтва агрэсараў у іх барацьбе супроць міру. Не гледзячы на існуючыя паміж імперыялістычнымі драпежнікамі супярэчнасці і барацьбу, яны аб'ядналі свае сілы там, дзе ім трэба падтрымліваць адзін другога супроць мірных краін.

Сусветны эканамічны крызіс, які абвастрыў супярэчнасці ўнутры капіталістычнага парадку, абвастрыў і супярэчнасці паміж капіталізмам у цэлым і паміж краінай будуючагася соцыялізма. У сувязі з разгортваннем эканамічнага крызісу ўзмацнілася тэндэнцыя да авантурыстычных наскокаў на СССР і да інтэрвенцыі. На XVII з'ездзе партыі таварыш Сталін адзначыў, што некаторыя палітычныя колы капіталістычнага свету думаюць, што барацьбу трэба арганізаваць супроць СССР. «Яны думаюць разбіць СССР, падзяліць яго тэрыторыю і пажывіцца за яго кошт».

Барацьба совецкай дзяржавы за мір на гэтым этапе не з'яўляецца вынікам нашай баязні перад капіталістычным акружэннем. Паклёпнікам, якія прабавалі «тлумачыць» міралюб'е краіны Советаў гэтымі пабуджэннямі, таварыш Сталін адказаў у той-жа прамове з вычарпальнай яснасцю. «Наўрад ці можна сумнявацца,—сказаў ён,—што гэта вайна будзе самай небяспечнай для буржуазіі вайной». І няхай не наракаюць на нас паны буржуа, калі яны на другі дзень пасля такой вайны не далічацца некаторых блізкіх ім урадаў, якія цяпер шчасна царствуюць «міласцю божай».

Барацьба за мір, якую вядзе наш урад і наша краіна, тлумачыцца проста. Ні наш урад, ні народы Совецкага Саюза не хочуць вайны таму, што ў нас няма, ды па самому характару нашага ладу і не можа быць, ніякіх імперыялістычных інтарэсаў, ніякага жадання пажывіцца за чужы кошт. Міралюб'е Совецкага Саюза знайшло сваё выражэнне ў палажэнні нашага асноўнага закона—Сталінскай Канстытуцыі. Артыкул 49, пункт «к» Канстытуцыі ўстанаўляе, што Прэзідыум Вярхоўнага Совета «у перыяд паміж сесіямі Вярхоўнага Совета СССР абвяшчае становішча вайны ў выпадку ваеннага нападу на СССР або ў выпадку неабходнасці выканання міжнародных дагаворных абавязацельстваў па ўзаемнай абароне ад агрэсіі».

Міралюб'е совецкай краіны знайшло сваё выражэнне і ў словах таварыша Сталіна, вядомых усяму свету і паўтараемых кожным грамадзянінам нашай радзімы:

> «Ні адной пядзі чужой зямлі не хочам. Але і сваёй зямлі, ні аднаго вяршка сваёй зямлі не аддамо нікому».

У абстаноўцы прадваеннай свістапляскі барацьба за мір, якую праводзіць Совецкі Саюз, набыла новыя формы. Задача барацьбы за мір заключалася на даным этапе ў тым, каб аб'яднаць сілы ўсіх краін, «якія стаяць так ці інакш за захаванне міру» і проціпаставіць іх аб'яднаны фронт любому нападу агрэсараў. Вядома, што наглая агрэсія Японіі супроць Кітая, Італіі супроць Абісініі, Італіі і Германіі супроць Іспаніі маглі мець месца і не прывялі да гэтага часу да пагібелі агрэсараў толькі таму, што агрэсары не сустрэлі належнага супраціўлення з боку краін—староннікаў міру. Асноўнай прычынай слабасці супраціўлення агрэсару з'яўлялася і з'яўляецца да гэтага часу пазіцыя, занятая ў гэтым пытанні англійскімі кансерватыўнымі коламі, якія праяўлялі ва ўсіх выпадках агрэсіі патуранне агрэсару і

імкненне да зговару з сіламі, якія развязваюць новую вайну. Асабліва ярка гэта пазіцыя англійскіх кансерватараў выявілася ў пытанні фашысцкай інтэрвенцыі ў Іспаніі. Створаны па ініцыятыве англічан камітэт па неўмяшанню поўнасцю заслужыў характарыстыку, даную тав. Літвінавым, назваўшым яго камітэтам па неўмяшанню ў інтэрвенцыю супроць іспанскага народу.

Хістанні вялікіх дзяржаў, нават у такім пытанні як ліквідацыя Лакарнскага дагавора, прывялі да таго, што малыя і слабыя краіны пачалі траціць упэўненасць у сваёй безапаснасці і праяўляць схільнасць да зговару з агрэсарам. Ведучы інтрыгі супроць справы міру, фашысцкія агрэсары высунулі ў якасці сродку зняволення краін, якія знаходзяцца пад пагрозай агрэсіі, ідэю так званай «лакалізацыі канфліктаў», згодна якой кожны раз, у выпадку нападу агрэсараў на якую-небудзь мірную краіну, усе астатнія краіны павінны пакінуць афяру нападу з вока на вока з агрэсарам і не ўмешвацца ў іх барацьбу, каб не ператварыць «мясцовы канфлікт» у сусветны. Гэтай лініі агрэсараў Совецкі Саюз, апіраючыся на краіны, якія знаходзяцца пад пагрозай агрэсіі, проціпаставіў сваю лінію. Усякая спроба агрэсіі, адкуль-бы яна ні выходзіла, павінна быць прасечана агульнымі намаганнямі ўсіх зацікаўленых у міры краін. У сваім выступленні на 17 сходзе Лігі нацый 21 верасня г.г. тав. Літвінаў паказаў, як спробы лакалізацыі канфліктаў, зробленыя ў выпадках агрэсіі ў Кітаі, Абісініі і Іспаніі, палегчылі падрыўную работу агрэсараў супроць справы міру і распалілі іх апетыты на новыя злачынствы супроць чалавецтва.

Выкрываючы палітыку лакалізацыі канфліктаў, Совецкі Саюз высунуў ідэю недзялімага міру і ўзаемадапамогі супроць усякага агрэсара. У барацьбе за ажыццяўленне гэтай ідэі ўзнікла палітыка калектыўнай безапаснасці, якая з'яўляецца ў сучасны момант асноўнаю зброяй у дыпламатычнай барацьбе за мір.

Дзякуючы цвёрдасці ў барацьбе за мір Совецкі Саюз у кароткі час стаў асноўнай сілай у ажыццяўленні палітыкі калектыўнай безапаснасці і фактычна заняў месца кіраўніка справай барацьбы супроць вайны. У гэтай барацьбе Совецкі Саюз апіраўся і апіраецца перш за ўсё на сваю растучую гаспадарчую і палітычную магутнасць. Рост магутнасці СССР, згуртаванне самых шырокіх працоўных мас вакол комуністычнай партыі і совецкай улады, бурны ўздым усёй народнай гаспадаркі,—усё гэта зрабіла Совецкі Саюз непрыступнай крэпасцю, сіла якой уносіць бадзёрасць у сэрцы ўсіх староннікаў міру.

Магутнасць нашай радзімы ўвасобілася ў нашай слаўнай Чырвонай Арміі, якая ператварылася ў мацнейшую армію свету. Рост палітычнай і ваеннай падрыхтоўкі камандзіраў РСЧА, рост баявой тэхнікі і аператыўнага майстэрства Чырвонай Арміі з кожным днём усё больш і больш аслабляе рашучасць некаторых паноў саваць сваё свіное рыла ў совецкі гарод. Гэта магутнасць з'яўляецца таксама апорай недзялімасці міру і калектыўнай безапаснасці для ўсіх народаў.

Ажыццяўляючы палітыку міру, Совецкі Саюз выступіў у гэты перыяд з радам канкрэтных мерапрыемстваў. Па ініцыятыве СССР было ўзнята пытанне аб вызначэнні агрэсара і ў 1933 г. была заключана па гэтаму пытанню спецыяльная канвенцыя, якая аб'яднала рад краін. Вызначэнне агрэсара, зафіксаванае ў гэтай канвенцыі, адхіляе ўсякія дыскусіі аб тым, хто з'яўляецца агрэсарам і здзяйс-

ненне якіх дзеянняў павінна разглядацца, як агрэсія адной дзяржавы супроць другой. Гэта вызначэнне агрэсіі затрудніла падпальшчыкам вайны магчымасць завуаляваць свае разбойніцкія дзеянні туманам агульных разважанняў і гучных фраз.

У верасні 1934 г. Совецкі Саюз пашоў насустрач краінам, якія стаяць так ці інакш за захаванне міру, і ўступіў у Лігу нацый. Ясна аддаючы сабе адказ, што пакт Лігі нацый не з'яўляецца абсалютнай гарантыяй міру, Совецкі Саюз тым не менш прыняў запрашэнне 30 краін уступіць у Лігу, улічваючы, што з уходам з Лігі фашысцкай Германіі і Японіі, узмацняецца роля Лігі, як аднаго з сродкаў барацьбы за мір. Уступленне СССР у Лігу нацый прывяло да скарыстання Лігі для аб'яднання сіл супраціўлення агрэсару і ўзмацніла яе значэнне, як перашкоды на шляху развязвання вайны. Совецкі Саюз прыняў удзел у абмеркаванні ў Лізе раду пытанняў, закранаючых інтарэсы міру. У ліку гэтых пытанняў былі: вайна Балівіі і Парагвая, італа-абісінская вайна, аднабаковы разрыў Германіяй Лакарнскага дагавора, фашысцкая інтэрвенцыя ў Іспаніі, напад Японіі на Кітай і т. д. Па ўсіх гэтых пытаннях Совецкі Саюз займаў зусім чоткую і прынцыповую пазіцыю, падтрымліваючы ўсе мерапрыемствы Лігі па ўмацаванню міру.

Імкнучыся да ўмацавання міру, Совецкі Саюз зрабіў многае і для наляпшэння сваіх адносін з паасобнымі дзяржавамі. У 1933 г. былі аднаўлены дыпламатычныя адносіны са Злучанымі Штатамі Амерыкі. У 1934 г. аднаўлены адносіны з Балгарыяй, Венгрыяй, Румыніяй, Чэхаславакіяй, у 1935 г.—з Бельгіяй. У гэтай сувязі трэба ўпамянуць і аб продажу КУЧ, які сведчыў аб цвёрдай мірнай палітыцы СССР на Ўсходзе.

Змагаючыся за арганізацыю калектыўнай безапаснасці, Совецкі Саюз актыўна ўдзельнічаў у перагаворах аб заключэнні так званага Ўсходняга пакта аб узаемадапамозе, які павінен быў гарантаваць мір ва Ўсходняй і Цэнтральнай Еўропе. Кіраўнікі совецкага ўрада публічна заявілі, што СССР жадае захаваць нармальныя адносіны і з Германіяй, калі апошняя адмовіцца ад планаў агрэсіі, змешчаных у кнізе Гітлера. Міралюбʼе СССР не сустрэла аднак водгуку ў Германіі. Нямецкія фашысты не толькі не адмовіліся ад сваіх агрэсіўных планаў, але прабавалі нават прыцягнуць да іх і іншыя краіны. На лонданскай эканамічнай канферэнцыі нямецкі прадстаўнік Гугенберг выступіў адкрыта з прапановай арганізаваць крыжовы паход супроць СССР. На фашысцкіх з'ездах у Нюрнбергу, у асаблівасці на з'ездах у 1936 г., Гітлер, Розенберг, Гебельс і інш. выступалі не раз з істэрычнымі прамовамі, насычанымі антысовецкімі пагрозамі і паклёпам.

Сістэма ўзаемадапамогі супроць агрэсара была закладзена дагаворам Совецкага Саюза аб узаемнай дапамозе з Францыяй у маі 1935 г. Аналагічны дагавор быў заключан Совецкім Саюзам і з Чэхаславакіяй. Гэтыя дагаворы ўмацавалі справу міру не толькі на Ўсходзе, але і на захадзе Еўропы. Выкрываючы падпальшчыкаў вайны, Совецкі Саюз не раз на практыцы даказваў хістаючымся і нерашучым старонікам міру, што поспех справы міру залежыць ад адзінства і цвёрдасці дзеянняў старонікаў міру, ад крэпасці адпору агрэсару. Дзякуючы рашучай барацьбе СССР з патураннем агрэсару і са спробамі зговару з падпальшчыкамі вайны, спробы агрэсараў запалохаць старонікаў міру, ізаляваўшы іх адзін ад другога, не прывялі да ча-

каемых імі рэзультатаў. Толькі нядаўна краіны староннікі міру знайшлі дастаткова сіл, каб прыняць калектыўныя меры безапаснасці супроць нападу фашысцкіх піратаў у Міжземным моры. Не гледзячы на непаўнату гэтых мер, рашэнні Ніонскай канферэнцыі з'явіліся довадам таго, што ідэя калектыўнай безапаснасці з'яўляецца і па гэты дзень дзейснаю зброяй у барацьбе за мір.

Фашысцкія падпальшчыкі вайны дасканала разумеюць вядучую ролю Совецкага Саюза. Яны разумеюць, што рост сіл СССР, рост яго магутнасці, рост Чырвонай Арміі ўмацоўвае сілы ўсіх прыяцеляў міру і натхняе іх у барацьбе супроць вайны і фашызма. Вось чаму фашысцкія разбойнікі накіроўваюць усе сілы на тое, каб падарваць нашу магутнасць, скарыстоўваючы для гэтага ўсе сродкі правакацыі, дыверсіі і шпіянажу. Вось чаму з дапамогай свайго агента Троцкага яны ствараюць злачынныя гнёзды шкоднікаў, правакатараў, шпіёнаў і дыверсантаў, засылаюць да нас сваіх шпіёнаў і дыверсантаў, скарыстоўваюць для гэтай мэты трацкісцка-бухарынска-рыкаўскую нечысць. Рукамі тухачэўскіх, гамарнікаў і якіраў і іншых наёмных злачынцаў яны пасягалі на абаронную магутнасць СССР, прабавалі падарваць сілу нашай Чырвонай Арміі. Працоўныя Совецкага Саюза горача віталі бязлітасную барацьбу нашай партыі і ўрада супроць германа-японскіх шпіёнаў і дыверсантаў, супроць трацкісцка-бухарынскіх агентаў фашызма. Працоўныя нашай краіны і ўсяго свету ведаюць, што гэта барацьба з'яўляецца барацьбой за мір, што поспех яе ламае планы падпальшчыкаў вайны і ўмацоўвае фронт міру, арганізатарам і кіраўніком якога з'яўляецца Совецкі Саюз. Працоўныя нашай краіны ні на мінуту не забываюць аб небяспецы нападу імперыялістаў на СССР. Пад кіраўніцтвам нашай ленінска-сталінскай партыі і правадыра працоўнага чалавецтва ўсяго свету таварыша Сталіна працоўныя нашай радзімы гатовы ў любы момант даць сакрушальны адпор ворагу, адкуль-бы ён ні паспрабаваў пагражаць краіне будуючагася соцыялізма.

---

Д. Горбах

# Нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў БССР к 20 гадавіне Кастрычніка

Дваццатую гадавіну Вялікай Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі Краіна Советаў сустракае велізарнымі дасягненнямі і перамогамі на ўсіх участках соцыялістычнай будоўлі.

Сталінская Канстытуцыя з'яўляецца вынікам дваццацігадовай барацьбы працоўных мас Совецкага Саюза за пабудову соцыялізма. Вызвалены народ стаў поўнапраўным гаспадаром усіх матэрыяльных і культурных багацяў сваёй неабсяжнай краіны, гаспадаром свайго лёсу, актыўным будаўніком свайго квітнеючага, радаснага і шчаслівага жыцця.

У брацкай сям'і з усім 170-мільённым насельніцтвам соцыялістычнай радзімы радасна сустракае вялікае свята вызваленай працы і ўвесь беларускі народ.

Ордэнаносная Беларусь стала краінай высокай культуры. Клопатамі партыі і совецкай улады пад кіраўніцтвам лепшага друга працоўных таварыша Сталіна створана Беларуская Акадэмія Навук, дзесяткі інстытутаў, навуковых і вышэйшых навучальных устаноў, шырокая сетка тэхнікумаў і школ сярэдняй асветы. Выраслі кваліфікаваныя кадры спецыялістаў соцыялістычнай прамысловасці і сельскай гаспадаркі. У асноўным ліквідавана няграматнасць. Ленінска-сталінская нацыянальная палітыка прывяла Совецкую Беларусь да культурнага, радаснага жыцця.

Зусім іншы малюнак наглядаем мы ў капіталістычных краінах, асабліва ў тых, дзе лютуе фашызм, рыхтуючы новы сусветны ваенны пажар, новую крывавую бойню. Капіталізм стаў тормазам культурнага росту народаў. Фашызм—непрымірымы вораг усякай дэмакратыі і цывілізацыі.

У фашысцкай Германіі на вуліцах і плошчах палыхаюць кастры, на якіх азвярэлымі варварамі спальваюцца каштоўнейшыя помнікі чалавечай культуры. Звыш 1000 выдатных вучоных прагнаны з Германіі. Беспрацоўе дасягнула нечуваных памераў. Тысячы інжынераў рады знайсці работу хоць-бы ў якасці простага чорнарабочага.

Фашысцкая Польшча ў інтарэсах вайны і ўзбраенняў з года ў год рэзка скарачае асігнаванні на культуру і асвету. У 1935-36 навучальным годзе на вышэйшую школу ў Польшчы асігнавана сродкаў утрая менш, чым у 1929—30 годзе. Адначасова скарачаецца і набор у школы. З 1934 па 1935 г. кантынгент студэнтаў скараціўся больш як на 4 тысячы. Толькі ветэрынарныя ды медыцынскія факультэты ў сувязі з падрыхтоўкай захватніцкай вайны паказваюць некаторы рост. Пры агромным процанце няграматных сістэматычна скарачаецца падрых-

тоўка настаўнікаў для сярэдняй і пачатковай школы. Затое панская Польшча па прыкладу сваёй саюзніцы, фашысцкай Германіі, усямерна развівае багаслоўскія факультэты. Няма чаго і гаварыць, што вышэйшая асвета недаступна працоўнай моладзі.

Заходняя Беларусь стогне пад ботам польскага пана. Аб сваёй нацыянальнай культуры беларускі народ не можа нават і марыць. Беларускія школы зачынены, культурныя таварыствы разганяюцца, краіна ідзе к дэградацыі.

На тэрыторыі Заходняй Беларусі ў час савецкай улады (1918-1919) было больш 400 беларускіх школ, 7 беларускіх гімназій і 2 настаўніцкія семінарыі. За гады белапольскай акупацыі ўсе яны закрыты. Голад і галеча, бяспраўнасць і невуцтва—вось малюнак жыцця беларускага народу Заходняй Беларусі пад ярмом польскага імперыялізма.

* * *

Беларускі народ на працягу шматвяковай гісторыі не меў сваёй дзяржаўнасці, гібеў у цемры і невуцтве, у бяспраўі і нястатку.

Вякамі араў беларус свой вузкі палетак крывенькай драўлянай сахой на лядашчым кані. Вякамі плялося за ім непазбыўнае гора. Струхнелая хата, змарнелыя дзеці, ад зары да зары непасільная праца на пана—вось сумны ўдзел бедняка селяніна, падданага царскай памешчыцкай Расіі. Расло малазямелле, і, каб не загінуць з голаду, селянін вымушан быў ісці ў заработкі: ганяў плыты, капаў зямлю, будаваў чыгункі, стаяў за брудным варштатам у цёмным, вільготным сутарэнні саматужнага прадпрыемства. Спрадвеку нястатак, галеча і голад панавалі ў рабочай і сялянскай сям'і. Цёмны быў беларус. Самадзяржаўе не клапацілася аб народнай асвеце, бо з цёмнага чалавека лягчэй выціснуць апошнія сокі, такога чалавека лягчэй трымаць у паслушэнстве капіталісту ды памешчыку.

Толькі вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя вызваліла беларускі народ ад спрадвечнага ўціску эксплаататарскіх класаў, заклікала к жыццю яго творчую ініцыятыву. Беларусь атрымала сваю дзяржаўнасць. З царскай калоніі, адсталай і забітай, пад кіраўніцтвам большэвіцкай партыі і вялікага правадыра народаў таварыша Сталіна, Беларусь ператварылася ў квітнеючую ордэнаносную краіну соцыялізма.

У брацкай дружбе з усімі народамі Савецкага Саюза беларускі народ заваяваў гарантаванае права на працу, на асвету, на адпачынак.

Створана высокаразвітая прамысловасць, буйнае механізаванае соцыялістычнае земляробства. Небывала ўзрос матэрыяльны дабрабыт працоўных мас, расцвіла культура, нацыянальная па форме і соцыялістычная па зместу.

У царскі час Беларусь не мела ні адной навукова-даследчай установы. У паўразваленых сялянскіх хатах туліліся каля 4.000 царкоўнапрыходскіх школ. Затое цэрквы і турмы, бізун памешчыка і голад старанна абслугоўвалі працоўных Беларусі. Поп, жандарм ды прыстаў былі адзінымі прадстаўнікамі «культуры» на вёсцы.

Вольна ўздыхнуў беларускі народ толькі пасля перамогі Вялікай соцыялістычнай рэвалюцыі.

Пры брацкай дапамозе вялікага рускага народу беларускі народ пабудаваў сабе новае, шчаслівае і заможнае жыццё. Палі Савецкай Беларусі каласяцца багатым ураджаем калгаснага хлеба. Гіганты індустрыі выпрацоўваюць складаныя машыны для соцыялістычных палёў, багацце прадуктаў і тавараў шырокага спажывання.

Беларусь Савецкая дасягнула нябачаных поспехаў у культурна-палітычным росце, асабліва за час сталінскіх пяцігодак. Шчаслівая савецкая моладзь ахоплена шырока раскінутай сеткаю школ, тэхнікумаў, вышэйшых навучальных устаноў, якія рыхтуюць тысячы савецкіх настаўнікаў, урачоў, інжынераў, артыстаў, мастакоў, музыкантаў, пісьменнікаў.

У 1914 годзе ва ўсіх відах школ (царкоўна-прыходскіх, земскіх, хедэрах, маліцвеных дамах і інш.) на тэрыторыі Беларусі, у тым ліку і Заходняй Беларусі, навучалася толькі 264 тыс. дзяцей. У 1937 годзе на тэрыторыі Савецкай Беларусі—7 тысяч школ, у якіх навучаецца на сваёй роднай мове каля мільёна шчаслівых дзяцей савецкага народу.

У 1914 годзе было 6.998 настаўнікаў. У 1937 годзе ў школах Савецкай Беларусі працуе 31.687 настаўнікаў.

Школы царскага часу былі галоўным чынам царкоўна-прыходскія з 3-гадовым навучаннем. Сярэднія школы абслугоўвалі амаль выключна дзяцей прывілеяваных класаў.

У 1914 годзе школ няпоўнай сярэдняй асветы, пераважна духоўных семінарый, было ўсяго 77, з іх 62 у горадзе і 15 на вёсцы. Вучылася ў іх 2000 чалавек. У час гаспадарання нямецкіх і белапольскіх акупантаў з усіх гэтых школ засталася толькі адна. У 1937 годзе Савецкая Беларусь мае 1.597 няпоўных сярэдніх школ у горадзе і 1.445 на вёсцы. Вучыцца ў іх 379.702 чал.—павелічэнне ў 190 раз.

У 1914 годзе на вёсцы не было ні адной сярэдняй школы, а ў горадзе 51. У 1937 годзе мы маем 130 сярэдніх школ на вёсцы з 68.520 вучняў і 188 школ у горадзе з 123.189 вучняў. Такім чынам супроць 51 сярэдняй школы і 7.000 вучняў да рэволюцыі Савецкая Беларусь мае 318 сярэдніх школ, гарадскіх і сельскіх, з ахопам 191.709 дзяцей.

Да Кастрычніцкай рэволюцыі на тэрыторыі Беларусі былі толькі тры настаўніцкія семінарыі. Зараз створана шырокая сець навучальных устаноў, якія рыхтуюць спецыялістаў вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі. Толькі ў 69 тэхнікумах (без музычнага, мастацкага і фізкультурнага) навучаецца 25.943 студэнты. За гады рэволюцыі тэхнікумы падрыхтавалі дзесяткі тысяч спецыялістаў розных кваліфікацый.

Будаўніцтва сталінскіх школ дало магчымасць ліквідаваць у гарадах трэцюю змену заняткаў і значна скараціць зменнасць. У 1936-37 навучальным годзе пабудавана 140 новых сталінскіх школ на 60.000 вучняў з іх у гарадах—31 школа на 27.000 вучняў.

У БССР праведзена ўсеагульнае абавязковае навучанне на базе пачатковай школы, а ў гарадах і пагранічных раёнах—на базе няпоўнай сярэдняй школы.

Для падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў створана шырокая сець пед'інстытутаў і педвучылішчаў. Кадры настаўнікаў для беларускіх пачатковых школ і школ нацменшасцей рыхтуюць педагагічныя тэхнікумы. На 1 верасня 1937 года мы маем 14 педтэхнікумаў. У гэтым навучальным годзе з педтэхнікумаў выпушчана 2.187 настаўнікаў.

На 1 студзеня 1934 года ў тэхнікумах навучалася 4.292 студэнты, на 1 студзеня 1937 года—звыш 8.453 студэнтаў. За тры гады—рост на 50,7%.

Для павышэння кваліфікацыі настаўнікаў арганізавана завочнае навучанне. У 1936-37 навучальным годзе завочнікі і экстэрны складалі: у педтэхнікумах 11.757 чал., у 2-гадовых настаўніцкіх інстытутах 4.343 чал., у 4-гадовых пед'інстытутах і Беларускім дзяржаўным універсітэце 1.970 чал.

Настаўнік Совецкай Краіны пастаўлен на небывалую раней вышыню. Выключная ўвага, дапамога і клопаты партыі, урада і совецкага народу аб настаўніку ствараюць усе ўмовы для таго, каб ён мог чэсна і аддана выконваць сваю ганаровую ролю ў соцыялістычным грамадстве.

На гістарычную пастанову ЦК ВКП(б) аб школе і выступленне таварыша Сталіна на Ўсесаюзнай нарадзе стаханаўцаў настаўніцтва БССР адказала магутным уздымам творчай ініцыятывы, шырокім разгортваннем соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва. У 1935 годзе па Аршанскаму раёну спаборнічала 69% усіх настаўнікаў, у 1936—78%, у 1937—83%. У Бабруйскім раёне адпаведна: 46%, 57% і 73%. У Гомельскім: 55%, 69% і 72%. І т. д.

Да рэволюцыі Беларусь не мела ні адной дашкольнай установы. Дашкольныя ўстановы ўзніклі толькі пасля Кастрычніка. Асабліва стала расці сецъ дашкольных устаноў з 1934 года. Кадры для дашкольных устаноў рыхтуюць спецыяльныя сярэднія навучальныя ўстановы—дашкольныя тэхнікумы. Для работнікаў дзіцячых садоў мы маем зараз 4 самастойныя тэхнікумы, 2 аддзяленні пры педвучылішчах і 3 вячэрнія педвучылішчы. Акрамя таго створана шырокая сецъ кароткатэрміновых курсаў, якімі за пяць апошніх год падрыхтавана каля 8.000 дашкольных работнікаў. Пры Менскім вышэйшым пед'інстытуце ёсць дашкольны факультэт, які рыхтуе высокакваліфікаваных спецыялістаў для дашкольных устаноў.

Метадычнае кіраўніцтва і дапамогу работнікам дашкольных устаноў аказваюць 12 спецыяльных кабінетаў, якія вядуць таксама і навукова-даследчую работу.

З кожным годам шырыцца стацыянарная сецъ дашкольных устаноў БССР. У 1934 годзе дзіцячых садоў было 658 на 32.875 дзяцей, у 1935 годзе—800 на 40.000 дзяцей, у 1936 годзе—845 на 42.275 дзяцей і ў 1937 годзе—1.176 на 54.600 дзяцей.

Акрамя таго вялікая колькасць дашкольнікаў абслугоўваецца сезоннымі дзіцячымі ўстановамі. У 1937 годзе дзіцячымі садамі, пляцоўкамі і інш. дашкольнымі ўстановамі было ахоплена каля 200.000 дзяцей.

У 1936 годзе ў сувязі з пастановай урада «Аб забароне абортаў і павелічэнні дзіцячых устаноў» пабудавана новых і прыстасавана пад дзіцячыя сады 25 памяшканняў на 2.570 месц. 30 новых дзіцячых садоў будзе адкрыта к святу Кастрычніка.

Бюджэт дашкольных устаноў у 1937 годзе толькі па Наркомасветы складае 21.108 тысяч рублёў, а ўсяго—звыш 40 мільёнаў рублёў.

Да рэволюцыі маса дзяцей абяздоленых бацькоў пакідалася на волю лёсу, папаўняла армію беспрытульных. У БССР існуе зараз звыш 100 дзіцячых дамоў для выхавання сірот. У 1936 годзе дзіцячыя дамы падрыхтавалі і паслалі на вучобу ў рабфакі, тэхнікумы, ВНУ і ВТНУ звыш 2.000 чал.

Дарэвалюцыйная Беларусь не мела ні аднаго вышэйшай навучальнай установы, ні аднаго навукова-даследчага інстытута. Зараз БССР мае 22 ВНУ і ВТНУ і 41 навукова-даследчую ўстанову.

У вышэйшых навучальных установах навучаецца 15.265 студэнтаў, у 72 тэхнікумах—27.812 і ў 20 рабфаках—6.629.

У БССР асігнаванні на асвету з кожным годам растуць. За апошнія шэсць год выдаткі на народную асвету па дзяржаўнаму і мясцоваму бюджэту павялічыліся ў чатыры разы—з 119 мільёнаў рублёў у 1932 годзе да 483 мільёнаў рублёў у 1937 годзе, а ў параўнанні з 1925—26 гг. яны выраслі ў 37 раз.

Нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы нязмерна выраслі. Горацкі сельскагаспадарчы інстытут з захудалага землемернага вучылішча ў дарэвалюцыйны час ператварыўся ў гіганцкую ВНУ з моцнай вытворчай і навучальнай базай, з каштоўным абсталяваннем кабінетаў і лабараторый. Медыцынскі інстытут з медыцынскага факультэта, арганізаванага ў 1921 годзе, вырас у буйную вышэйшую навучальную ўстанову з кантынгентам студэнцтва звыш 2.000 чал.

Беларусь да рэвалюцыі не мела ні аднаго прафесара. Зараз у адным толькі Медыцынскім інстытуце працуе 33 прафесары, з іх 20 дактароў навук. Мед'інстытут за кароткі час даў краіне звыш 2.000 спецыялістаў.

Беларускі народ, пры дапамозе брацкіх народаў вялікага Савецкага Саюза, ВКП(б) і любімага Сталіна, дасягнуў гэтых гістарычных перамог на культурна-нацыянальным фронце і ў іншых галінах народнай гаспадаркі ў лютай барацьбе з ворагамі народу, здраднікамі радзімы, шпіёнамі і дыверсантамі. Бязлітасны разгром нацыянал-фашыстаў, польскіх шпіёнаў, трацкісцка-бухарынскіх і іншых бандытаў забяспечыў беларускаму народу гэтыя перамогі. Далейшая выкарчоўка іх подлых паследышаў, энергічная і хуткая ліквідацыя вынікаў шкодніцтва паскорыць пераможны рух к комунізму. Партыя большэвікоў Беларусі пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і таварыша Сталіна загартоўваецца ў барацьбе з ворагамі і ўпэўнена вядзе беларускі народ да новых перамог, да гістарычных выбараў у Вярхоўны Совет на падставе Сталінскай Канстытуцыі.

Сталінская Канстытуцыя—трыумф ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі, дзякуючы якой беларускі народ падняўся з цемры мінулага да светлых вяршынь соцыялізма. З вуснаў працоўных не зыходзіць любімае, роднае імя Сталіна, які даў беларускаму народу так многа радасці і шчасця.

Беларускі народ з небывалым натхненнем сустракае ўсенароднае свята гістарычных перамог соцыялізма, як роўнапраўны член вялікай сям'і народаў Совецкага Саюза, цвёрдым поступам ідзе ён да светлай будучыні—комуністычнага грамадства.

І. Чорны

Загадчык Прамаддзела ЦК КП(б)Б

# Прамысловасць БССР за 20 год

Беларуская Социялістычная Савецкая Рэспубліка пад кіраўніцтвам ВКП(б) і вялікага Сталіна прыходзіць да 20 гадавіны Кастрычніка з вялікімі дасягненнямі ў галіне індустрыялізацыі. За гады двух сталінскіх пяцігодак прамысловае будаўніцтва ў БССР набыло велізарны размах. Фабрыкі і заводы Савецкай Беларусі пабудаваны па апошняму слову навукі і тэхнікі.

Беларусь у дарэвалюцыйны час буйнай прамысловасці па сутнасці не мела. Як па колькасці рабочых, так і па валавой прадукцыі пераважала саматужная прамысловасць. У горадзе Менску ў 1912 годзе на 1930 прамысловых рабочых прыпадала 6400 саматужнікаў і рамеснікаў. Такія, прыкладна, суадносіны былі і па ўсіх астатніх буйных гарадах Беларусі. У дробных гарадах і мястэчках панавала выключна саматужна-рамесніцкая прамысловасць. Саматужнікі і рамеснікі ў 1913 годзе давалі прадукцыі на 351 мільён руб. (у цэнах 1926-27 гг.), тым часам як валавая прадукцыя прамысловых прадпрыемстваў складала 99,9 мільёна рублёў. Такім чынам валавая прадукцыя саматужна-рамесніцкай прамысловасці была ў $3^{1}/_{2}$ разы больш усёй прадукцыі фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў дарэвалюцыйнай Беларусі.

Толькі пасля Кастрычніцкай социялістычнай рэвалюцыі, асабліва за гады двух сталінскіх пяцігодак, дзякуючы няўхільнаму ажыццяўленню ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі і брацкай дапамозе рабочага класа вялікага Савецкага Саюза, Беларусь з краіны адсталай аграрнай, саматужна-рамесніцкай, прыгнечанай і паняволенайператварылася ў адну з індустрыяльна-аграрных рэспублік вялікай социялістычнай радзімы.

Даволі сказаць, што ў 1937 годзе аб'ём прамысловай прадукцыі БССР складае 2 мільярды 200 мільёнаў руб.—у 22 разы больш чым у 1913 годзе.

Можна прывесці рад галін прамысловасці, нават паасобныя прадпрыемствы, аб'ём прадукцыі якіх на многа перавышае або ровен аб'ёму прадукцыі ўсёй прамысловасці дарэвалюцыйнай Беларусі. Адна магілеўская шоўкавая фабрыка выпускае ў 1937 годзе прадукцыі на 90 з лішнім мільёнаў рублёў, што, прыкладна, роўна прадукцыі ўсёй прамысловасці дарэвалюцыйнай Беларусі. Толькі два віцебскія прадпрыемствы—трыкатажна-панчошная фабрыка «Кім» і швейная «Сцяг індустрыялізацыі»—выпускаюць сёлета прадукцыі ў паўтара раза больш, чым выпускала ўся прамысловасць дарэвалюцыйнай Беларусі.

Мясцовая прамысловасць БССР дае ў 1937 годзе прадукцыі на 170 мільёнаў рублёў або, прыкладна, у два разы больш усёй гадавой прадукцыі да рэволюцыі.

Удзельная вага прамысловасці ва ўсім аб'ёме народнай гаспадаркі БССР складае ў 1937 годзе 73 проц. Гэты паказчык ярка падкрэслівае фактператварэння Беларусі ў адну з індустрыяльна-калгасных рэспублік СССР.

Галоўнейшыя галіны прамысловасці Беларусі пабудаваны за гады двух сталінскіх пяцігодак. Амаль уся мясцовая прамысловасць БССР вырасла пасля Кастрычніка. З 89 прадпрыемстваў мясцовай прамысловасці толькі 19 пабудаваны ў дарэволюцыйны час. Прычым цікава адзначыць, што калі па колькасці прадпрыемстваў мясцовая рэспубліканская прамысловасць (без горсовецкай, райвыканкомаўскай і саматужна-прамысловай каапераціі) вырасла за гэтыя гады, прыкладна, у 5 раз, то яе валавая прадукцыя павялічылася ў 47 раз. Гэта значыць, што новапабудаваныя заводы і фабрыкі Наркамата мясцовай прамысловасці прадстаўляюць сабой буйныя, тэхнічна дасканала аснашчоныя прадпрыемствы. Такі, прыкладна, характар мае прамысловасць і раду іншых наркаматаў БССР.

Прадукцыя Наркамата харчовай прамысловасці толькі рэспубліканскага значэння (без саюзнай сампромкааперацыі) у 14 раз перавысіла аб'ём харчовай прадукцыі дарэволюцыйнай Беларусі. Харчовая прамысловасць БССР па раду галін займае даволі значнае месца ў харчовай прамысловасці СССР. Беларуская рэспубліка дае дрожджаў каля 30 проц. усёй саюзнай вытворчасці, аліфы—таксама каля 30 проц., маргарыну—9,5 проц., макаронаў—7 проц. і т. д.

Да Кастрычніцкай рэволюцыі ў Беларусі налічвалася 897 фабрычна-заводскіх прадпрыемстваў з колькасцю рабочых не больш 25 тысяч. На 10 буйнейшых прадпрыемствах Беларусі (металапрамысловасць) працавала 850 рабочых або ў сярэднім 85 чалавек на прадпрыемства. У БССР толькі спачатку першай пяцігодкі пабудавана 1.790 прадпрыемстваў (паводле даных 1936 г.). Гэтыя прадпрыемствы не толькі па сваёй тэхніцы, але і па аб'ёму вытворчасці і колькасці рабочых, ні ў якой меры не могуць быць параўнаны з дарэволюцыйнымі. На кожным з 32 нашых прадпрыемстваў працуе ад 1000 да 7.000 рабочых. Такой колькасці рабочай сілы не ведалі прадпрыемствы дарэволюцыйнай Беларусі.

Тэхнічны ўзровень вытворчасці характарызуецца асноўнымі вытворчымі фондамі. У дарэволюцыйнай Беларусі яны былі мізэрнымі і вылічаліся сотнямі тысяч рублёў. У 1927—28 гг., праз 6—7 год пасля вызвалення Беларусі ад белапалякаў, калі вялікі Совецкі Саюз пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна пачаў аднаўляць і будаваць новую прамысловасць у БССР, асноўныя вытворчыя фонды яе склалі ўжо 82 мільёны 947 тысяч рублёў, а ў 1936 годзе, у рэзультаце паспяховага выканання сталінскіх пяцігодак, асноўныя вытворчыя фонды буйнай (цэнзавай) прамысловасці БССР дасягнулі ўжо 638 мільёнаў 343 тысяч рублёў.

Прадпрыемствы капіталістычнай Беларусі амаль зусім не карысталіся механічнай і электрычнай рухаючай энергіяй. Асноўнай энергіяй былі тады рабочыя рукі, а ў лепшым выпадку—маламагутныя рухавікі. У 1936 годзе магутнасць паравых (механічных) рухавікоў на прадпрыемствах НКП БССР складае ўжо 50.484 квт, электрагенератарных—

30.340 квт. Усяго электраматораў толькі ў наркамацкай прамысловасці працуе 84.172.

Дарэвалюцыйная Беларусь не ведала вытворчасці складаных станкоў і машын, зусім не мела тарфянай прамысловасці. Швейная прамысловасць прадстаўляла сабою дробныя саматужныя прадпрыемствы. Харчовая прамысловасць абмяжоўвалася некалькімі заводамі па вытворчасці гарэлкі і безалкагольных напіткаў. Металапрадпрыемствы займаліся вырабам плугоў, сякер і дробнага сельскагаспадарчага інвентара, звязанага з варварскай, адсталай тэхнікай.

Толькі пасля Кастрычніцкай соцыялістычнай рэвалюцыі БССР атрымала тэхнічна дасканалую металапрамысловасць. Гомсельмаш снабжае складанейшымі машынамі не толькі БССР, але і рад іншых абласцей Совецкага Саюза. Да асноўных відаў вытворчасці нашых новых і рэканструяваных металапрадпрыемстваў адносяцца: ільнатрапалкі Антонава і Сергеева, канава-капальнікі, бегуны розных відаў, шаравыя млыны, вентылятары, радыятары, рэбрыстыя трубы, элеватарныя машыны, багеры, гідра-турбіны, цэнтрабежныя помпы, поршневыя помпы, падаючыя молаты, ланцугі Галя і т. д. Станкабудаўнічая прамысловасць БССР выпускае 4.815 станкоў у год з 41.016 штук станкоў па Саюзу. Сярод іх—прадольна-стругальныя, папярэчна-стругальныя, даўбежныя, радыяльна-свідравальныя і іншыя станкі.

Змяніла свой твар за гэтыя гады і саматужная прамысловасць. Уся саматужная прамысловасць у асноўным аб'яднана ў прамыслова-саматужную кааперацыю, з аб'ёмам прадукцыі ў 1937 годзе ў 385,6 мільёна руб. Такім чынам прамысловасць толькі адной сампромкааперацыі ў чатыры разы перавышае прамысловую прадукцыю дарэвалюцыйнай Беларусі.

Шырока развілася паштовая і электрасувязь у БССР. У 1913 годзе працяжэнне правадоў міжгародняй сеці складала 10.000 кілометраў, у 1937 годзе—90.000 кілометраў. У дарэвалюцыйнай Беларусі не толькі вёска, але і мястэчкі і валасныя цэнтры не былі тэлефанізаваны. У 1913 годзе налічвалася ўсяго 2.900 тэлефонных кропак, а ў 1937 годзе гарадская тэлефонная сувязь мае каля 26.000 кропак, з іх нізавая тэлефонная—3.400, сельсоветаў—1.284, МТС—110 і соўгасаў—274.

З развіццём прамысловасці расце і рабочы клас. У адной толькі дзяржаўнай прамысловасці БССР занята да 140 тыс. рабочых, у асноўным—беларусаў. У прамысловасці дарэвалюцыйнай Беларусі налічвалася не больш дваццаці процантаў беларусаў. У 1929 годзе гэты процант дасягае ўжо 50,4, у 1936 годзе—66,2, а ў 1937 годзе перавышае 70. На віцебскай фабрыцы «КІМ», на гомельскім шклозаводзе імя Сталіна ён даходзіць да 85—90. Усяго аб'яднана ў прафесіянальныя саюзы рабочых і служачых, занятых у розных галінах народнай гаспадаркі і культуры БССР, на 1 студзеня 1937 г. 510.573 чалавек. Колькасць жанчын на вытворчасці вырасла да 43,9 проц., сярод іх інжынерна-тэхнічных работнікаў—да 17,8 проц.

Да рэвалюцыі рабочым даводзілася працаваць у выключна дрэнных умовах, у нізкіх, цёмных, брудных памяшканнях, па 12, 13, а то і 15 гадзін у суткі. Заработная плата вучня і падмайстра складала ад 30 да 54 р. у год. Вучні за першы год вучобы амаль нічога не атрымлівалі, а ў большасці выпадкаў яшчэ і даплачвалі

гаспадару. Заработак на другі год хістаўся ад 5 да 15 рублёў, на трэці і чацверты—ад 10 да 30 руб. Рабочы не атрымліваў ніякай платы пры захворванні або страце працаздольнасці.

Вялікая соцыялістычная рэволюцыя дала рабочаму класу Беларусі, побач з усімі працоўнымі Совецкага Саюза, гарантаваны заработак, шчаслівае і радаснае жыццё. Вялікія заваяванні Кастрычніка запісаны ў гістарычным дакуменце нашай эпохі—Сталінскай Канстытуцыі.

У час адпускной кампаніі праз гарадскія дамы адпачынку праходзяць дзесяткі тысяч рабочых і служачых. Адны толькі рэспубліканскія дамы адпачынку абслужылі ў 1936 годзе 48.500 рабочых і служачых, не лічачы прапушчаных праз санаторыі і курортнае лячэнне. З кожным днём паляпшаюцца матар'яльна-бытавыя ўмовы. Працоўныя Совецкай Беларусі ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэволюцыі атрымалі магчымасць бясплатна навучаць сваіх дзяцей у сярэдніх школах, а ў вышэйшых навучальных установах—на дзяржаўнай стыпендыі. БССР мае зараз дзесяткі вышэйшых і сярэдніх навучальных устаноў, Беларускі дзяржаўны палітэхнічны інстытут штогод выпускае сотні камандзіраў соцыялістычнай вытворчасці.

Ворагі народу—агенты нямецка-польскага фашызма, здраднікі радзімы з лагера трацкісцка-бухарынскай банды і контррэволюцыйныя нацыяналісты—па заданню фашыстаў імкнуліся падарваць эканамічную магутнасць БССР, адарваць яе ад вялікай сям'і народаў СССР, каб аднавіць капіталізм. Аднак фашысцкія найміты пралічыліся. Пры дапамозе і кіраўніцтве ЦК ВКП(б) і асабіста таварыша Сталіна ворагі народу былі выкрыты і разгромлены.

Сталінскі дэкрэт аб дапамозе беларускаму народу выклікаў новую хвалю творчага энтузіязма на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

Працоўныя масы БССР сустракаюць 20 гадавіну Вялікай Кастрычніцкай рэволюцыі і выбары ў Вярхоўны Совет СССР барацьбой за датэрміновае выкананне плана апошняга года другой сталінскай пяцігодкі, вялікімі перамогамі на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва.



